PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 20 (2035) ГОД XL БЕЛАСТОК 14 МАЯ 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)

## ЦУДАТВОРЦЫ

*— Калі на вас наваліцца ўсякага роду пошасць, найлепш хутка паехаць да БАБЫ. Калі не паможа адна, парайцеся ў трох наступных. У самых складаных і цяжкіх хваробах трэба аб'ехаць дзевяць такіх месц. Найлепш зрабіць гэта ў адзін дзень і перад захадам сонца, — раяць на Беласточчыне.*

— У нас „чудотворцов" нэ долічытысе, — запэўнівалі мяне жыхары Грабаўца. У іх вёсцы замаўляе чатыры бабы — Ганна, Марыя, Нінка і Люба. Таксама Іван, састарэлы кавалер, „спецыяліст" па нервах.

У недалёкіх Дубічах-Царкоўных лечыць Надзя, у Тафілаўцах — Ганна і Марыя, у Чэхах-Арлянскіх — Ганна, у Істоку — Надзя і Ганна, у Шэрнях — Олька, у Дабрывадзе — Іван. Пра дзве апошнія асобы з Маліннік і Мора, мае інфарматары сказалі:

— Напішыце — баба і мужчына,— бо хто ж іх усіх там спамятае!

Дарэчы, звычайна, па імені людзі называюць тут цудатворцаў.

— А ёсць і такія, што замаўляюць у таямніцы, — дадалі вяскоўцы.

— Ці многа такіх?

— Можа і больш за гэтых вядомых, — пачулася ў адказ. Амаль усе з 15-ці названых асоб з'яўляюцца вучнямі Ганны з Руткі. Гэта яна прыдумала, што ў саміх цяжкіх хваробах трэба падацца да дзевяці баб. Сама адшукала і прывучыла ў наваколлі патэнцыяльных цудатворцаў. У народзе існуе перакананне, што добрай сілай надзелены блізнюкі. З такой прычыны згаданы Іван з Грабаўца стаў самым папулярным і вядомым спецыялістам па нервовых хваробах. Апошнія мелі ў родзе замаўлячых бабак, па якіх перанялі дар і сакрэт замовы. Сёння ўжо нямногія прызнаюцца да сваёй славутай настаўніцы. Усе аднак трымаюцца спосабаў і прынцыпаў аздараўлення, заведзеных Ганнай з Руткі.

### Сіла плыве з бескарыснасці

— пацвярджаюць усе апытаныя жанчыны-цудатворцы.

— Калі ўжо няма ратунку перад грашыма, тады кажу, што могуць адзін шакалад пакінуць, — гаворыць цётка Ганна з Грабаўца.

— Усе грошы, бо людзі хочуць заплаціць за дапамогу, вязу на царкву, Супрасльскі манастыр. Там яшчэ раз закупляю малітву за здароўе сваіх „пацыентаў", — прызнаецца дабрадушная Люба з Грабаўца.

— З грашыма гэта адна бяда толькі, — сцвярджае Ганна з Руткі. — Адзін дурань то нават 50 доляраў кінуў. І што мне было рабіць? Мусіла будаваць цэрквы! — жалілася жанчына.

Справа ў тым, што адночы Ганне з Руткі прысніўся сон. У сне прамовіў да яе дзяцюк, святы Гаўрыіл: „Што ты мне дарам дасі, я табе дарам аддам". І пачалося... Аднаму памагло, другому...

— Таму Гасподзь, — гаворац згодна кабеты, — памагае, бо мы паводзім сябе так, як наказаў сам Хрыстос. Той, хто не верыць у Бога, не павінен сюды прыязджаць. Малітва не прыстае да антыхрыстаў!



*Люба з Грабаўца.*

Не менш важнай справай пры замаўлянні ёсць дапасаванне.

— Калі пападзе кроў на кроў, тады чысціцца ўсякая цяжкасць, усякая хвароба, — пераконваюць замаўлючыя, непаўторнай стылізаванай на манер замовы мовай.

### Замаўляецца, ізбаўляецца

*Всякая болезнь, всякая трудость*
*Од вітру, од пары, уроку,*
*од сонця, пэрэлёку,*
*ковтун і ковтуніця*
*на свое місцэ остановіся...*
*Іді на сухі ліэс, на сухое дэрэво!*

Меладычным, манатонным вершам галосяць, пахіленыя над цярпеўшым, жанчыны. На канец, у залежнасці ад хваробы, раяць рабіць неабходныя яшчэ практыкі. Памагае. Таму і едуць з усяго наваколля.

— З каўтуном прыязджае вельмі многа. Пераважна гарадскія, беластоцкія. Адной дзеўцы дзень перад шлюбам звіўся. З нерваў, з перажывання, — гавораць цудатворцы, для якіх каўтун — невялікая праблема. — Замовіш і гіне з часам, — пясняюць руціннаю практыку, здавалася б, ужо неіснуючую.

— У вёсцы людзі ідуць з усялякімі справамі. Нават калі свіння есці не хоча, або бародаўка карове на вымі выскачыць. Пра зубы або сурочаныя дзеці нават не варта ўспамінаць — усё гэта нармальная штодзённая праца, — расскрэчваюць бабы.

— Мясцовым заўсёды спяшаецца. Замаўляй і ўсё! Патрабуюць! А паспрабуй адмовіць, то папракаюць, што гарадскіх прымаеш, а для сваіх літасці не маеш, — жалілася адна цётка.

— Лепш бы мне было не прызнавацца, што маю такі дар, — дадае другая.

Таксама пра лячэнне алкаголікаў баецца гаварыць многім наведальнікам.

— Паводле маіх ведаў трэба прысвяціць такому аж сорак дзён. І гэта па некалькі гадзін у дзень. Аднойчы, калі я перарвала такую замову, прыганяецца да мяне з Беластока жанчына ў адчаі і пытае ці я далей малюся. Бо тым часам, калі я перарвала, хворы пачаў піць насмерць. Тады трэба было пачаць замову ад пачатку. І перастаў піць, адрокся, прыязджала пазней удзячная жонка, — кажа бабка.

Адна толькі Ганна з Руткі не баіцца лячыць алкаголікаў. Нядаўна нават прыдумала мікстуру з маладых мышэй.

— Калі п'яніца пакаштуе такой гарэлкі з распушчанай сухой мышшу, зарачэцца выпіўкі назаўсёды, — пераконвае цётка. Да Ганны з Руткі, самай моцнай і слаўнай бабы

### едуць з усяго свету

— гавораць у наваколлі. Дарэчы, за „цэлы свет" перш за ўсё лічаць тут Беласточчыну. Едуць не толькі вяскоўцы.

— Адзін, што ездзіць гандляваць у Расію, прыехаў і гаворыць: „Замоўце, цётко, мой заўтрашні выезд. Бачыце, апошнім разам я да вас не заехаў і на граніцы ўсё адабралі". А пазней зноў прыгнаўся і зноў прасіў замовіць чарговы выезд, — расказвала Ганна з Руткі. Да яе едуць не толькі кантрабандысты але і такія, што здаюць экзамены ў школы, у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Многія замаўляюць на экзамены на вадзіцельскія правы, камп'ютэрныя ці іншыя курсы.

Да бабы едуць бяздзетныя жанчыны. У Ганны з Руткі, Любы з Грабаўца (ды пэўна і іншых цудатворцаў) нямала „унучкаў" — народжаных пасля замовы.

Да цудатворцаў едуць беларусы, палякі, цыганы, украінцы — праваслаўныя, каталікі, баптысты.

— Памагае ўсім, усім ахрышчаным, — распавядаюць далей людзі.

— Замоўце мне жонку ад нерваў, — прасіў мяне цыган. А потым ужо прыехаў з падарункам, памагло значыцца. Толькі непатрэбна мне блюзак сваіх, якімі гандляваў, накідаў, — успамінае славутая Ганна з Руткі.

Люба з Грабаўца прыводзіць, што многія палякі, якія едуць аж ад Га233ндза, усё пытаюць сябе: „Dlaczego u nas nie ma takich uzdrowicieli?"

### Яны людзі як усе іншыя

— гавораць пра сваіх цудатворцаў аднавяскоўцы. Усе яны маюць вялікія (за рэдкімі выключэннямі) гаспадаркі, на якіх цяжка працуюць. У Ганны з Руткі на галаве дваццаць вепрукоў, дабытак, куры, і хатняя работа. Зямлю абрабляе разам з братам.

— Часам, калі людзей наз'язджаецца, і свінні квічаць, то чалавека аж злосць бярэ. Нават у поле едуць за мною самаходамі, — наракае рутчанская аздараўцелька.

Люба, — маладая гаспадыня і маці чатырох дзяцей, таксама не любіць папулярнасці.

— Толькі на істоцкім полі адчуваю сябе вольнай. Там ужо ніхто мяне не знойдзе, — расскрэчвае яна.

— А, пані, часам і муж аблае, што самому ўсё рабіць трэба, што за чужымі сваёй сям'і не бачу. Поля ў нас пятнаццаць гектараў, то і працы нямала, усім работы хапае, — жаліцца Люба.

Ганна з Грабаўца — сямідзесяцігадовая пенсіянерка — таксама ўспамінае сваё нялёгкае жыццё. У 15 гадоў выйшла замуж, гадавала дзяцей, цяжка працавала. Цяпер, хаця зямля на дачку апісана, работы хапае.

— Найгорш, што мае малітвы не прыстаюць да сваёй сям'і і да самой сябе. Во, пагляньце, як ногі мне папухлі, — паказвае пасінелыя ногі бабуля.

Усе цудатворцы жывуць як усе сяляне. Дар замаўляння і папулярнасць нярадка мяшае ім у жыцці. Але здараюцца і „цудаторныя ідэі". Ганна з Руткі марыць

### аздаравіць беларускі народ.

Хацела б пабудаваць манастыр у Маліннiках.

— Трэба давесці да таго, каб людзі лечыліся не па хатах, а ў манастыры, з божым бласлаўленнем. І ў нас магло б з сорак „таксовак" стаяць перад манастыром замест у Орлі, — разважае Ганна з Руткі.

Дзякуючы яе старанням і нятхнёнай веры ў сваё дзеянне, ужо стаяць цэрквы ў Маліннiках і Елянцы.

— Ужо цяпер аб'яўлены Ганне ў сне месцы „ісцэляюць", — распавядаюць у наваколлі.

Многія бачылі там містычныя знакі — ззянне на небе, спеў анёлаў, сніцца ім святы младзенец Гаўрыіл. Многія нясуць у тыя месцы свае крыжы.

**Ганна Кандрацюк**
**Фота аўтара**

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Na moskiewskiej defiladzie z okazji zwycięstwa nad faszyzmem armia białoruska nie zamierza defilować pod narodową flagą, lecz pod czerwoną z sierpem i młotem. Aleksander Łukaszenko domaga się odtworzenia sowieckiego imperium. Pomniki wodzów komunistycznej rewolucji już dawno zniknęły z miast rosyjskich, stoją natomiast w białoruskich. Wybierając Łukaszenkę Białorusini zamiast drogi do Europy wybrali drogę ku Rosji i to Rosji, która nie istnieje — Rosji Radzieckiej. Prezydentowi Łukaszence przez rok rządów nie udało się wyplenić korupcji, ani poprawić sytuacji gospodarczej. Jedna rzecz udała się natomiast znakomicie — spacyfikowanie mediów. Niewygodnych redaktorów powyrzucał z gazet. Protesty były bardzo słabe i nie dały żadnych efektów. Podobnie zrobił z dziennikarzami telewizyjnymi, a jedyną stację, która dopuszczała do reprezentowania poglądów opozycji, po prostu zamknął pod pretekstem remontu.*

*(Gazeta Współczesna, nr 79)*

20 красавіка падчас трохгадзіннай сустрэчы з падабранымі журналістамі Лукашэнка заявіў, што ў Беларусі цяпер поўная дэмакратыя і парадак. Г.зв. „беларускі прэзідэнт" і г.зв. „беларускія журналісты" — галоўныя рэдактары ўсіх цэнтральных газет падчас гэтай дыскусіі не сказалі ні слова на беларускай (пакуль што дзяржаўнай) мове. Эксперымент Хрушчова працягваецца. На беларускай зямлі ствараецца савецкі скансэн з савецкім народам. Неўзабаве маскоўская мафія будзе запрашаць у гэты скансэн турыстаў з Заходняй Еўропы. Лукашэнка стане тады адным з даражэйшых экспанатаў у гэтым скансэне. Напрыклад, 5 хвілін гутаркі з „президентом будет стоить 50 долларов".

* * *

*Na wojnie w Bośni dorobiło się wielu Serbów i Muzułmanów i teraz chcieliby pokoju. Te grupy są ze sobą w kontakcie. Wrogowie chodzą do siebie na kawę albo żeby sobie popić i ułożyć scenariusz walk na najbliższy tydzień. Walczy już tylko garstka fanatyków i ci, którym zlecono zorganizowanie prowokacji. Bo przecież napięcie trzeba podtrzymywać. Inaczej nikt nie będzie przesyłał pomocy,* — сказаў расейскі наёмнік з Босніі.

*(Gazeta Wyborcza, nr 93)*

* * *

*Pismo Św. zabrania kaleczenia ludzi, obcinania im członków, bicia kijem, czy kańczugiem. Karę tę stosowano jednak przez wieki z aprobatą Kościoła. W dobie Oświecenia podejmowano starania o humanitaryzację wymiaru sprawiedliwości, a przede wszystkim o zniesienie tortur stosowanych podczas śledztwa, jak i podczas samej egzekucji. Władze duchowne wydawały podręczniki „dobrego umierania", w których znajdujemy modlitwy, jakie miały towarzyszyć rozmaitym rodzajom kaźni (gruchotaniu nóg, ćwiartowaniu, wieszaniu, paleniu na stosie). Według kleru znoszenie cierpień na ziemi posiada oczywisty i wymierny sens. Bardziej opłaca się ponieść karę za życia, które trwa w końcu krótko, aniżeli znosić męki przez całą wieczność. Rzadko jednak torturowani odmawiali modlitwy zalecane przez księży; do wieczności odchodzili raczej z przekleństwem na ustach i nienawiścią w sercu, co oczywiście pomnażało ich szanse na piekło. Podobnie było z chłopami, którym duchowni zalecali pokorne wypełnianie ich pańszczyźnianych obowiązków, co miało otwierać szeroko bramę do zbawienia.*

*(Polityka, nr 16)*

* * *

*Prymas Glemp twierdzi, że 95% polskiego społeczeństwa to katolicy. Jak to się zatem stało, że katolicy, pouczani wciąż przez swych duszpasterzy, wybrali w ostatnich wyborach „zbrodniarzy" z SdRP, PSL, UP i UW, a nie wybrali ZChN. Jak wy tam pracujecie na ambonach i w konfesjonałach? Ten elektorat znów może pójść z lesbijkami i gejami i wybrać zbrodniarzy!*

*Ksiądz prałat Henryk Jankowski nie może myśleć o wszystkim i wszystkim się zajmować. Ma własne przedsiębiorstwo i handluje alkoholem z nalepkami głoszącymi, że pieniądze od każdej kupionej butelki idą na Kościół. Czyli — pij, kto w Boga wierzy! Oczywiście w katolickiego Boga. Ale to chyba jasne, że Pan Bóg jest Polakiem i katolikiem.*

*(Wprost, nr 17)*

* * *

*21 чэрвеня 1941 г. Берыя пісаў Сталіну: „Я зноў настойваю на адкліканні і пакаранні нашага пасла ў Берліне Дзеканозава, які па ранейшаму бамбардзіруе мяне дэзамі, што нібыта Гітлер рыхтуецца напасці на СССР. Ён нават паведаміў, што гэты напад пачнецца заўтра. Начальнік Разведупраўлення Голікаў скардзіцца на Дзеканозава і на свайго палкоўніка Навабранца, які таксама лжэ, быццам бы Гітлер сканцэнтраваў 170 дывізій супраць нас на нашай заходняй граніцы...*

*Але я і мае людзі, Іосіф Вісарыёнавіч, цвёрда помнім Ваша мудрае прадвызначэнне: „у 1941 годзе Гітлер на нас не нападзе".*

*(Голас Радзімы, н-р 15)*

Дзеканозава не паспелі адклікаць і расстраляць, як гэта зрабілі з іншымі. 22 чэрвеня 1941 г. Гітлер напаў аднак на СССР.

* * *

*Zdaniem polityków radzieckich dobry dowódca nie musi odznaczać się żadnymi szczególnymi zaletami, przeciwnie, powinien być ograniczony. Uchowaj Boże żeby był człowiekiem, ulitował się, zastanawiał nad tym, co jest sprawiedliwe, a co nie jest sprawiedliwe. W 1941 r. odwrót Armii Czerwonej wstrzymał pod Moskwą rozkaz nr 270 wydany przez Kwaterę Główną na Kremlu: każdy, kto złoży broń zostanie osądzony jako zdrajca ojczyzny; sankcje karne obejmą również rodziny żołnierzy, którzy poddali się. Podobny „zabieg", w bardziej drastycznej formie powtórzono pod Stalingradem, kiedy Niemcy zbliżali się do Wołgi. Każdego, kto wycofał się z zajmowanej pozycji, czekał sąd doraźny i rozstrzelanie. Ten argument zatrzymał czerwonoarmijne pułki pod Stalingradem, bo za Wołgą śmierć była pewniejsza. W ofensywie obowiązywała natomiast strategia terenowego uderzenia wielkiej masy wojsk. Ta strategia nie wymagała wojennej finezji, tylko bezwzględnych, nie liczących się ze stratami dowódców.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 94)*

* * *

*Eksperyment z wolnym rynkiem trwał — zdaniem prezydenta Białorusi Aleksandra Łukaszenki — wystarczająco długo, aby rozłożyć gospodarkę kraju. Poza tym kapitalizm jest obcy białoruskiej mentalności, gdyż w Rosji i na Białorusi z trudem można znaleźć chociażby milion osób, które pamiętają czasy prywatnej własności. Biorąc pod uwagę mentalność narodu, nie wolno forsować procesów rynkowych. Natomiast zdaniem byłego przewodniczącego Rady Najwyższej Stanisława Szuszkiewicza, postępowania Łukaszenki nie powinien analizować ani politolog, ani ekonomista, lecz psychiatra.*

*(Wprost, nr 17)*

## З мінулага тыдня

**3 мая** — дзень ушанавання памяці святога мучаніка Гаўрыіла, святога Беластоцкай зямлі і заступніка дзяцей і моладзі. У гэты дзень Літургію ў царкве Успення ПДМ у Заблудаве ўзначалілі архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі **Сава**, епіскап Вроцлаўскі і Шчэцінскі **Іерэмія** і епіскап Люблінскі і Холмскі **Авель**. Напярэдадні ў Зверках, роднай вёсцы св. Гаўрыіла, іерархі пасвяцілі крыж і пляц пад будову царквы. Ва ўрачыстасцях прымалі ўдзел многія паломнікі.

**Ужо другі раз** збіраліся беластоцкія радныя, каб выбраць **новага прэзідэнта горада**. На папярэдняй сесіі не дайшло да галасавання над кандыдатурай клуба „Еднасць", бо з залы пасяджэнняў выйшлі ў знак пратэсту радныя ад Уніі вольнасці (УВ) і Беластоцкага клуба левых (БКЛ). Прыгадаем, што апазіцыйныя клубы патрабуюць іншага кандыдата на прэідэнта, чым віцэпрэзідэнт **Кшыштаф Юргель**, а таксама перадачы апазіцыі пастоў віцэ-старшынь Гарадсокй рады і шэфаў некаторых камісій Рады. Радныя БКЛ лічаць, што найлепшым метадам выбару прэзідэнта горада быў бы конкурс. 2 мая г.г. сесія Гарадской рады закончылася тузанінай. У пачатку сесіі прадстаўнікі ўсіх клубаў радных бралі голас і заяўлялі аб волі вядзення перамоў наконт кандыдатаў на пасаду прэзідэнта Беластока, а радны ад клуба праваслаўных **Антон Міpановіч** прапанаваў адтэрмінаваць сесію на два дні для спакойнага правядзення перагавораў паміж клубамі. Аднак радныя „Еднасці", якія маюць большасць галасоў у Радзе, прапанову адкінулі і намерваліся працягваць пасяджэнне. Тады радныя УВ сцвердзілі, што ў такой сітуацыі яны не бачаць магчымасці далейшага ўдзелу ў сесіі і хацелі пакінуць залу. Ля дзвярэй радных спынілі жыхары горада — прыхільнікі клуба „Еднасць" — і, пасля вострага абмену словамі, пачалі блакаваць выхад. Узнікла тузаніна. Прысутны ў зале камендант Гарадской стражы не рэагаваў. Старшыня Рады, не авалодаўшы сітуацыяй, аб'явіў перапынак і паклікаў Гарадскую страж. Радны **Лех Пілярскі** з УВ склаў свае дэпутацкія паўнамоцтвы з увагі на адсутнасць магчымасці працы ў такой радзе. Старшыня Гарадской рады **Ян Хайноўскі** выказаў шкадаванне з выпадку скандалу і адтэрмінаваў сесію да 5 мая. На другі дзень (г.зн. 3 мая) клуб „Еднасць" змякчыў сваю пазіцыю і пачаў перамовы з раднымі БКЛ і УВ.

**Вырашаны ўжо лёс** філіялаў Сядлецкага трыкатажнага прадпрыемства „Каро" ў Бельску-Падляшскім і Гарадку. Бельскі завод стане самастойным прадпрыемствам, а ў Гарадку прадугледжваецца яго ліквідацыя, у выніку чаго 240 чалавек папоўняць рады беспрацоўных. Ужо ў мінулым месяцы амаль сто рабочых гарадоцкага „Каро" папалі пад скарачэнне. Звольненыя пачалі акцыю пратэсту, бо не атрымалі кампенсацыі за паскораны тэрмін скарачэння і баяцца, што калі прымуць дакументы аб скарачэнні, тады ім такая кампенсацыя не будзе выплачана.

**З візітам у Беластоку** прабывала група моладзі з Кіпра. 45 маладых кіпрыётаў прыехалі па запрашэнню Брацтва праваслаўнай моладзі. Наведалі яны Варшаву, Кракаў і Цяпліцы, а таксама пазнаёміліся з Супрасльскім манастыром. У час канікул беластоцкая праваслаўная моладзь будзе гасцяваць на Кіпры.

Прадстаўнікі ветэранскіх арганізацый з Пярэмышля выступілі да ўлад з патрабаваннем **забараніць дзейнасць Саюза ўкраінцаў у Польшчы**. Тамашнім ветэранам не падабаецца ўшаноўванне дзеячамі гэтай арганізацыі памяці салдат Украінскай паўстанчай арміі,. якую яны лічаць злачыннай.

**У Гарадку** невядомыя злачынцы разбурылі дванаццаць помнікаў на мясцовых могілках. Мяркуецца, што акт вандалізму быў учынены сатаністамі. **А ў Гайнаўцы** напярэдадні святкаванняў 3 мая таксама невядомыя злачынцы пашкодзілі помнік Канстытуцыі 3 Мая.

**У Саколцы** адкрыты адзін з большых базараў у Польшчы, які размясціўся на 9 гектарах і мае тысячу гандлёвых пунктаў.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

> Рэпартажы з Меляшкоў, Ласінкі і Мастаўлян.

> Хто і чаму адзначае Дзень Перамогі.

> Ці "Брага" стане высакаякасным "Спіртам".

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Шыкоўная рэзідэнцыя

На пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета была разгледжана прапанова прэзідэнта аб перанясенні пастаянных камісій і сакратарыята парламента з будынка былога Цэнтральнага камітэта КПБ у будынак Дома ўрада. Прэзідыум згадзіўся, што ВС здасць у арэнду прэзідэнту на рэзідэнцыю будынак былога ЦК і возьме ў арэнду Дом урада. Толькі два члены Прэзідыума — Ніл Гілевіч і Уладзімір Новік — выказаліся супраць такога рашэння, палічыўшы, што пытанне аб маёмасці ВС павінен вырашаць не Прэзідыум, а новы парламет.

### Наступ на „Свабоду"

Газета „Свабода" з прычыны свайго характару мела ўжо шэраг непрыемнасцей, уключна з пазбаўленнем яе магчымасці друкавацца ў сталічным Беларускім доме друку. Апошнім часам газета друкуецца ў Оршы, але наступ на яе, якая ў адпаведнасці з назвай хоча быць свабоднай, працягваецца. Прыхільнікі г.зв. „канструктывізму ў журналістыцы" загадалі дырэктару друкарні ў Оршы Рычарду Лясоту скасаваць дагавор са „Свабодай". Пры гэтым ціск аказваецца і на абласное кіраўніцтва ў Віцебску, якому падпарадкоўваецца гэтая друкарня. У друкарню з'явіўся таксама супрацоўнік раённага аддзялення Камітэта дзяржаўнай бяспекі, які перад запускам газеты ў друк знаёміўся з арыгінал-макетам 17 нумара „Свабоды". Аб неабходнасці скасавання дагавора правёў гутарку з дырэктарам і пракурор горада. На думку дырэктара друкарні, можна спадзявацца, што ў выпадку невыканання ўказанняў зверху, ён і начальнік упраўлення інфармацыі Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта будуць адпраўлены ў адстаўку. Сам дырэктар хацеў бы мірна разысціся з газетай „Свабода", але дагавор не прадугледжвае яго скасавання ў аднабаковым парадку, а газета не дае на гэта згоды і справу трэба праводзіць цераз гаспадарчы суд. З фінансавага пункту гледжання скасаванне дагавора нявыгаднае для друкарні, паколькі друк газеты займае 20% вытворчай магутнасці. Відаць, улады „дэмакратычнай" рэспублікі намагаюцца загнаць „Свабоду" ў падполле.

### Прытармажэнне „Пагоні"

Са спазненнем на суткі выйшаў чарговы нумар гродзенскай газеты „Пагоня". У абласной друкарні растлумачылі, што зламалася друкарская машына, аднак усе іншыя выданні былі надрукаваны тэрмінова. Рэдактар газеты Мікола Маркевіч лічыць, што ўсё гэта адбылося невыпадкова, паколькі ў газеце апісваліся падзеі ў Вярхоўным Савеце ў днях 10—12 красавіка і праводзілася рэзкая крытыка антыканстытуцыйных дзеянняў прэзідэнта Лукашэнкі.

### Ці згасне „Полымя"?

На нявызначаны тэрмін спыніла сваю фінансавую дзейнасць дзяржаўнае выдавецтва „Полымя", у якім друкуюцца трыццаць перыядычных выданняў, пераважна беларускамоўных. Прычына — фінансавыя цяжкасці. Да таго часу, пакуль выдавецтва не выплаціць у дзяржаўную казну 500 млн. рублёў падаткаў, яно не будзе праводзіць ніякіх фінансавых аперацый. Каб зменшыць свае фінансавыя затраты, калектыў выдавецтва вырашыў пайсці на 15 дзён у адпачынак.

### Кантроль за выбарамі

Удзельнікі пашыранага пасяджэння кансультацыйнай нарады патрыятычна-дэмакратычных сіл — прадстаўнікі Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі, Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, Беларускай сялянскай партыі, Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі, Беларускага згуртавання вайскоўцаў прынялі рашэнне аднавіць дзейнасць грамадскай кантрольнай камісіі. Яе мэта — не дапусціць да парушэнняў закона ў час правядзення выбараў і рэферэндуму. Назваўшы сітуацыю з рэферэндумам палітычнымі гульнямі, якія да таго ж патрабуюць сур'ёзных матэрыяльных затратаў, прадстаўнікі патрыятычна-дэмакратычных сіл прынялі зварот да народа не ўдзельнічаць у гэтых гульнях і .закрэсліць увесь бюлетэнь рэферэндуму.

### Кватэрны бізнес

Сёння амаль кожная менская сям'я мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў. Калі ёсць грошы — гэта не праблема. У прэстыжных раёнах сталіцы — праспект Машэрава, Вяснянка, раён ЦУМа — аднапакаёвая кватэра абыдзецца ў 15—20 тысяч долараў, трохпакаёвая — да 50 тыс. дол. У апошні час многія мянчане наладзілі свой асабісты кватэрны бізнес. Кватэра ў цэнтры здаецца на летні сезон замежным камерсантам ці якой-небудзь фірме, а сям'я здымае пакой дзе-небудзь на ўскраіне. Розніца ў 400—500 долараў у месяц дазваляе жыць зусім бязбедна, улічваючы, што сярэдняя месячная зарплата складае ўсяго пад сорак долараў.

# У доме з нумарам дзевятым

Па пушчанскіх узгорках, абуджаных вясною, бяжыць шаша. Мы недалёка ад Беластока, ужо за Супраслю. Свежы подых вільготных лугоў. Аўтобус затрымліваеца на некалькі секунд пры апошніх хатах. Сакалда.

Першая хата свеціць чыстымі вокнамі. Падворак разгароджаны, збягае да вуліцы. Паднялася чупрынка мураўкі, вылезлі з чорнай зямлі галоўкі веснавых кветак. Яны будуць тут яшчэ вылазіць не адну вясну, зрушаныя яе клічам, хаця каля іх карэння не спульхніць зямлі матычка гаспадыні, не дакранецца да іх яе добрая, руплівая далонь. Няма гаспадыні. Няма курак на падворку, не грабуцца ў гародзе, няма коціка, што вылежваўся на прызбе, няма сабакі, што пільнаваў дабытку — яе апошніх сяброў. Глыбокая сцежка зарастае драсёнам. Яшчэ каля прыступкаў на ганак стаяць галошы, матавыя ад снягоў, сонца і вады; чакаюць, відна, гаспадыніну нагу ўжо доўга, не дачакаюцца. Пайшла яна ў боціках святочных на вечны адпачынак...

Другая хата. На дзвярах замок, рэшта — быццам нехта толькі што выйшаў, на хвіліну, у краму ці да суседкі. Не, не так — у нашых вёсках мала хто вешае на дзвярах замок, хутчэй проста заткне калочак ці іншай замычачкай павядоміць, што гаспадара няма дома.

А вось і крама. Напэўна, крама — над дзвярыма, зачыненымі шынамі, вялізная каляровая шыльда: DELIKATESY. Не працуе, як даведаюся потым, ад Новага года.

Трэба мне трапіць да бабулі Альховічыхі, але як жа яе знайсці? Прыйдзецца хіба заходзіць да кожнае хаты і аглядаць усё новыя замкі?! У каго запытацца? Нідзе жывой душы, толькі час-часом машына праімчыць па асфальце... Нават сабак не чуваць, толькі шчыруюць птушкі, завіхаюцца, носяць у дзюбах галінкі, пух, траву — будуюць сабе новыя гнёзды, рамантуюць старыя сядзібы...

Ну, можа хоць тут нехта будзе?..

Здымаю зашчапку з брамкі, уваходжу на панадворак. Ну, тут хіба нехта жыве. Жаночы голас запрашае мяне з сеняў у сярэдзіну хаты.

У прасторнай кухні за сталом сядзяць дзве мілатварыя жанчыны сярэдніх гадоў, з ветлівымі вясёлымі вачыма. Яны ўжо мяне цераз акно прыкмецілі на пустой шашы, бачылі, як падыходжу да хатаў, кратаю дзвярныя клямкі, шукаю ўваходаў на зачыненых наглуха ганачках. Цёткі п'юць каву, наліваюць і мне. Сёння Вялікі Чацвер для госця пані Мар'янны Варановіч, яе суседкі з Падсакалды, праваслаўнай Весі Шпаковіч. Сёння ў Сакалду завітала аб'язная крама, збегліся ўсе навакольныя жыхары купіць сёе-тое.

Гаспадыню, пані Мар'янну, у нашыя мясціны прывёз быў муж аж з Каліша. Цяпер жыве адна ў вялікай, прыгожай, акуратнай хаце.

— Шэсць гадоў я ўжо адна, — кажа пані Мар'янна. — Мела я цудоўнага мужа, сям'ю. Выхавала двух сыноў. Самой мне ўжо 63 гады. Але я не самотная. Наведваюць часта мяне дзеці, унукі. І цудоўныя ў мяне сяброўкі, цудоўныя *кумпелькі* — вось Веся і Зузанна Варановіч. Яны ўмеюць і суцешыць, і рассмяшыць, і дапамагчы...

— Шмат было тут калісьці гаспадароў, за трыццаць, — пералічваюць Мар'янна з Весяй, — а цяпер вось на пальцах абедзвюх рук можна палічыць: Вацак Альховік, Байгуз, двух Філановічаў, Анішэўскі, Ромак, Валюсь, Мірак Ляўковіч... Хто памёр, хто з'ехаў. А месца тут цудоўнае — плыве рэчка Сакалда, а якія ў ёй рыбы: нават карпы і стронгі! І бабры на Дворыску маюць свае паселішчы. Лес прыгожы, чысты. І турыстычная інфраструктура развінута, — расказваюць, — у былой, вельмі ж пекнай „школе Тысячагоддзя" (перастала працаваць у 1970 годзе) — рэкрэацыйна-навучальны асяродак Медыцынскай акадэміі, ёсць кемпінгавыя домікі, прыватныя хаткі. І Арбарэтум у Копнай Гары, магілы паўстанцаў 1864 года, партызанаў, калі каго цікавіць гісторыя. Можна і на конях паездзіць. Каб так усе вёскі мелі такія магчымасці...

— А вы? Такая прыгожая жанчына, і ўсё думаеце аставацца адзінокай? — пані Мар'янна выглядае на не менш дзесяці гадоў маладзей свайго ўзросту.

— Самотныя жанчыны ўжо жывуць для дзяцей. Гэта таксама і незалежнасць, рэч прыемная. Дарэчы, жывым у зямлю не палезеш. Трэба жыць, дбаць, каб у добрых умовах пражыць рэшту жыцця, у як найлепшым настроі, час праводзіць як найбольш прыемна, каб не думаць аб прыкрых справах. Але глядзіш, і сумна робіцца: колькі тут дабытку народ меў, і ўсё прапала! Штогод — пахаванне. Чалавек адзінокі, а хаткі таксама самотныя.


*І ў гэтага дома — свая гісторыя...*

Яны нават і ўласнікаў новых не могуць мець, нічые яны цяпер. Старыя гаспадары, бацькі, памерлі, дзеці па свеце разляцеліся. Хтосьці, можа, і купіў бы такі домік, бо, бачыце, акуратныя ўсе, з моцнае драўніны, і месца надта ж прыгожае, але ў іх няма ніякіх дакументаў, правоў уласнасці. І не аформіш у такім выпадку правоў на іх. Вось і стаяць, незалежныя, і ўспамінаюць свой час, калі жылі.

І ў гэтага дома, з нумарам дзевятым, у якім п'ем гарачую моцную каву і частуе нас пані Мар'янна святочным пірагом (на жаль, у нас з Весяй — пост) — таксама свая гісторыя. Дзесяцёра дзяцей перад вайной у ім выгадаваліся (аднаго сына хросным бацькам быў сам Прэзідэнт Рэчы Паспалітай). У спальні — уся сцяна ў партрэтах прыгожых людзей. Пекная, прыкладная сям'я была, прыстойныя людзі павырасталі. А цяпер? Ксёндз казаў: „Трэба жыць на сто гадоў". Не крыўдзь іншага, лепш сам паплач. Абы здароўе было, і каб *товажыство*, сябры надзейныя, якія не забудуць, прыбягуць, пасядзяць разам, пагамоняць. Такія як Веся Шпаковіч.

За мужам пані Веся з'ездзіла шмат... лесу. Сама яна з Белавежы родам, муж таксама, радня з Валкавыцкімі. І ў пані Весі цяпер адзін зяць — католік, другі — праваслаўны. А вось два тыдні не было яе ў пані Варановіч, і аж засумавала. Чаму? Столькі ў іх абедзвюх радасці жыцця, цеплыні, жаноцкасці. Дабрыні, адкрыцця душы да іншага чалавека і прыроды. Гэта ім дапамагае жыць у гэтым кутку свету, які адны бачаць водшыбам, іншыя — паратункам для забеганага, заморанага свету, які не мае часу на хвіліну одуму, рэфлексіі.

Абедзве ўцешыліся, што я з „Нівы". Пані Веся памятае вершык пра Белавежу, які друкаваўся ў адным з яе першых нумароў. Была яна на той забаве, пра якую „народны паэт" праўду напісаў: „Без гармат і без гранатаў яны рушылі ў атаку, толькі крэсламі махалі, аж ілбы усім трашчалі"! Смяюцца. Смех лечыць. Сонечныя зайчыкі бегаюць па сценах вялікага дома дзяўчыны з Каліша, якая на Беласточчыне знайшла сваё прыстанішча і пільнуе агменю, каб мелі куды вярнуцца яе патомкі.

**Міра Лукша**
**фота аўтара**




## Дбайма пра нацыянальную тоеснасць

„Ніву" чытаю даволі рэгулярна, залежна ад месца прабывання. Ад двух гадоў, пасля пераходу на пенсію, па 4—6 месяцаў жыву на вёсцы, у Тафілаўцах, у доме маіх бацькоў. Сам я „тутэйшы" і жыву праблемамі, якія турбуюць людзей у вёсцы, гміне, Гайнаўцы, Бельску. У 1954 г. стаў я выпускніком беларускага класа Педагагічнага ліцэя ў Бельску-Падляшскім, пасля вучыўся ў Ленінградзе. Супрацоўнічаў я і сябраваў з рэдактарамі Аляксеем Карпюком, Міхасём Хмялеўскім, Пятром Чэрнякевічам. У 60-х гадах, праездам з Ольштына, заўсёды заходзіў у рэдакцыю.

Магу сказаць, што недзе ад 1948—49 гадоў свядома ўдзельнічаю ў грамадска-палітычным жыцці. Мая біяграфія — тыповая для сялянскага сына. Нарадзіўся я ў 1934 годзе і помню так час „панскай Польшчы", як і ўваход савецкіх войск у верасні 1939 г., пазнейшую акупацыю, партызанку, вызваленне і час Народнай Польшчы. У 1949 г. уступіў у ЗМП, а ў 1952 г. — у ПАРП, якой членам аставаўся я аж да апошняга З'езду. Верыў я ў сэнс сваёй працы, верыў у людзей, быў і рамантыкам, і ідэалістам, і рэалістам.

Пасля пераходу на пенсію стараюся ўтрымоўваць свой бацькоўскі дом — частку свайго жыцця і помнік Бацькам. І ўсё больш захапляюся Імі і шаную Іх. У 1938—41 гадах перажылі яны два пажары: як яны здолелі адбудавацца, выхаваць чацвёрку дзяцей, гаспадаруючы на цераспалосіцы з сарака ўчасткаў, да таго ж яшчэ аплачваючы ўсе падаткі?! Помню ўсё гэта, бо памагаў я таксама, ці то пасучы дабытак, ці памагаючы ў полі. І не саромеюся таго, што я — „тутэйшы". Апрача працы пры доме, многа раздумваю. Удзельнічаю ў грамадска-палітычным жыцці як неадродная ў поглядах і дзеянні крупіна СЛД. Наглядаю за праходзячай трансфармацыяй, у якой бачу і станоўчыя, і адмоўныя з'явы. Не мінаюць яны і „Ніву", і яшчэ пару гадоў таму невядома было ў якім напрамку яна пойдзе. Відаць было прыкметы дзіцячай хваробы, рассеянне актыву згуртаванага вакол „Нівы" і БГКТ. Возьмем, для прыкладу, апошнія выбары ў Сейм: чытаў я ў беларускім друку артыкулы, у якіх ацэньваліся іх вынікі — усе былі віноўнымі апрача „нас". Як магло быць іначай, калі аднаго дня прыходзіў солтыс за падтрымкай спіску Праваслаўных, а праз некалькі дзён з'яўляўся другі актывіст, які агітаваў за спіскам БДА?! Не разумею гэтага. Маем жа нядрэнных прадстаўнікоў у Сейме і Сенаце і трэба іх выкарыстоўваць для вырашэння найважнейшых праблемаў Беласточчыны, у тым ліку праблемаў беларусаў і праваслаўных. Толькі трэба гэта рабіць комплексна, без адчужання і мараў пра нейкую адрознасць і аўтаномію, без барацьбы з паланізацыяй і русіфікацыяй, рэлігійнага ці нацыянальнага супрацьстаяння. Былі мы, ёсць і будзем! Наш лёс звязаны з Польшчай і Беласточчынай. Дбайма пра мову, звычаі, культуру — з'яўляемся паўнапраўнымі грамадзянамі Рэчы Паспалітай! Дбайма пра нацыянальную тоеснасць і змагаймася супраць спроб дыскрымінацыі, нягледзячы на іх паходжанне.

Стымулам да напісання гэтай рэфлексіі стала змаганне за захаванне памяшканняў БГКТ у Беластоку. Некалькі тыдняў таму тэлебачанне паказала старшыню Сычэўскага (сябра з Педліцэя ў Бельску) і прэзідэнта Беластока. Пан прэзідэнт ласкава сказаў: „а што ж гэта за культура, якая ад страты аднаго памяшкання так збяднее?" (цытую па памяці). З цэнтральнага друку ведаю, што ў Беластоку самаўрадавыя выбары выйгралі групоўкі, якія родам з „Салідарнасці" — тае, якая змагаецца за ўладу, а не тае, якая змагаецца за справы працоўных людзей. Уладам Беластока, сталіцы рэгіёна багатага нацыянальнымі меншасцямі, нельга не бачыць, што памяшканні БГКТ, само Таварыства, „Ніва", многія стваральнікі культуры — гэта частка цывілізацыі, гісторыі, сучаснасці і будучыні Беласточчыны. Гэта адзін з колераў цэлай рэгіянальнай вясёлкі. На месцы ўлад гэтага горада я не ствараў бы праблемы з прычыны задоўжанасці, а думаў бы як супольна знайсці сродкі для выхаду з сітуацыі. Адзначу яшчэ, што беларуская культура з'яўляецца інтэгральнай часткай культуры Беласточчыны. Гэта і культура матэрыяльная, і духовая, і традыцыі. Гэта і тэатр імя А. Вянгеркі, і Лялечны тэатр, і Фестываль царкоўнай музыкі. Гэта і „Канапелька" Эдварда Рэдлінскага, і „Пожня" Васіля Петручука. Носьбітамі і стваральнікамі гэтай культуры з'яўляюцца і людзі простыя, „тутэйшыя", і пісьменнікі, і мастакі, і будаўнікі, і паэты, і песняры.

Варта пра гэта помніць.

**Сяргей Корч,**
**Ольштын**




### Чалавек

чалавек хітрая натура  
ніхто не ведае яго  
сапраўднага аблічча  
усяго яму мала  
мог бы свет праглынуць  
нараджаецца  
з заціснутымі рукамі  
і крычыць  
усе маё  
я хачу ўсё браць  
калі паміраe  
распрастае рукі  
і ўсё аддасць

### Сэрца

сэрца матор жыцця  
сэрца б'ецца  
для кахання  
каханне адыходзіць  
у нябыт  
вечная любоў маці  
сэрца затрымаецца  
не ўсё канчаецца.

**Аўрора**

# Палякі наракаюць

Больш-менш ведаем, якая ёсць сітуацыя паасобных нацыянальных меншасцей у Рэчы Паспалітай. Заўсёды, аднак, цікава было, як жывецца людзям у падобнай сітуацыі ў іншых краінах. Нагодай для пашырэння ведаў у гэтай галіне была канферэнцыя ў Астраве, што на Маравах, якую сарганізаваў польска-чэшска-венгерскаславацкі фонд *Coexistentia*. Тэмай гэтай своеасаблівай сустрэчы мела быць сітуацыя нацыянальных меншасцей у краінах Усходняй Еўропы. Арганізатары запрасілі шмат гасцей з Польшчы, Чэхіі, Славакіі, Аўстрыі — вучоных, дзеячаў, палітыкаў. Большасць, аднак, звычайна не прыехала. Калі яшчэ пару гадоў таму нашу частку кантынента ахапіла мода на „дэмакратыю", усе імкнуліся вырашаць у гэтым духу таксама праблемы народаў, якія па гістарычных прычынах былі адарваныя ад асноўнай масы сваіх суродзічаў. Сёння тэма гэтая як бы перастае цікавіць палітыкаў. Праблемы ў гэтай галіне пакінулі яны вырашаць палітычнай паліцыі. Гэта абазначае, што афіцыйна тэма з часам будзе знікаць з палітычнага, навуковага і культурнага жыцця, а неафіцыйна, узорам сямідзесятых гадоў, справы будуць ускладняцца.

Падарожжа ў Чэшскую Рэспубліку прывяло мяне да прыемнага расчаравання і веры ў тое, што ў кароткім часе, калі ёсць такая воля адказных людзей, мяжа паміж дзяржавамі можа стаць толькі сімвалам. Мяне, як чалавека з Беласточчыны, які нядаўна перасякаў польска-савецкую мяжу ў Кузніцы ці ў Чаромсе, здзівіла цалкавітая адсутнасць апарату тэрору на граніцы паміж Польшчай і Чэхіяй. Цягнік не затрымоўваецца на мяжы. Мытнікі і пагранічнікі выконваюць сваю працу ў дарозе. Займае ім гэта недзе 20 хвілін. Палякі і чэхі працуюць разам. Пагранічнікі пытаюцца: *Czy macie państwo paszporty?*, а мытнікі: *Czy zgłaszacie państwo coś do oclenia?* Калі на першае пытанне пачуюць: *Так*, а на другое: *Не*, жадаюць прыемнага падарожжа і адыходзяць. Яшчэ пяць гадоў таму гэтыя самыя людзі працавалі ў такі самы спосаб, як сёння іх савецкія калегі ў Гародні, дзе нават пабудавалі спецыяльныя клеткі, з якіх, як тыграў у цырку, выпускаюць пасажыраў у лапы нейкіх дзіўных тыпаў ва ўніформах таможнікаў.

Другое, што здзіўляе чалавека з Беласточчыны — гэта стандарт цягнікоў, якія адпраўляюцца з Варшавы ў заходнім напрамку. Кандыцыянеры ў вагонах, тры фатэлі нават у купэ другога класа, чыстата ў туалетах, адсутнасць традыцыйнага чыгуначнага смуроду. А ўсё гэта паводле такога самага тарыфа за білет, як у цягніку, які едзе з Беластока ў Брэст. Хіба ндзе так, як на чыгунцы, не відаць актуальнага падзелу на Польшчу А і Б.

Гасцініца ў Астраве, дзе адбывалася канферэнцыя, называецца *Dom Polski* і з'яўляецца яна ўласнасцю чэшскіх палякаў. Польская меншасць ў Чэхіі складае 55 тысяч чалавек; найбольш на Заользі — 40 тысяч. Палякі маюць там 37 дамоў, якія з'яўляюцца асяродкамі польскай культуры ў Чэшскай Рэспубліцы. *Dom Polski* ў Астраве — гэта не толькі гасцініца, але таксама тры рэстараны, дзве кавярні, вінярня і зала для дыскатэк з шыкоўным барам. Можна там гуляць да 4 гадзіны раніцы. Большасць гасцей і абслугі — гэта чэхі. Прыходзяць яны сюды з'есці абед ці пасядзець вечарам пры чарцы віна. Маладыя афіцыянткі і афіцыянты старога вітаць гасцей на іх мове.

Дырэктар *Domu* Станіслаў Гаўлік сказаў мне, што будынак пабудавалі палякі яшчэ пры канцы XIX стагоддзя, а ў 1990 г. польская меншасць атрымала яго ад урада ў рамках рэпрыватызацыі і пачала рамонт на ўласны кошт. Унутранае афармленне будынка здалося мне, аднак, надта пышнае, нават калі б сродкі на яго ўтрыманне і рамонт ахвярна давалі ўсе чэшскія палякі. Прытым гэта толькі адзін з 37 будынкаў, якімі карыстаецца польская супольнасць. Аднак у размове з генеральным консулам РП у Астраве Пётрам Шварцам высветлілася, што ў апошнім часе польская дзяржава выдаткавала на сваіх суродзічаў у Чэхіі звыш 40 мільярдаў злотаў. І тады больш зразумелыя сталіся дасягненні тамашніх палякаў.

Восем беларускіх арганізацый у Польшчы — гэта дробязь у параўнанні з 23 польскімі ў Чэхіі. Палякаў да таго ж там у 5 разоў менш, чым беларусаў у Польшчы. Дэмакратыя мае свае правы. Нягледзячы на нацыянальнасці і краіны, дзе яна пануе, людзі рэагуюць падобна. Маючы свабоду выбару і права арганізавацца, ствараюць суполкі, якія ім падабаюцца. Цяжка гэта, аднак, зразумець некаторым нашым дзеячам.

У 1993 г. Чэшская Рэспубліка выдаткавала на патрэбы польскай меншасці каля 225 тысяч долараў. Палякі наракаюць, што датацыі безупынна змяншаюцца і ў 1994 г. была гэта сума напалову меншая. Толькі хтосьці выпадкова заўважыў, што чэшскі ўрад у 1994 г. пачаў фінансаваць не арганізацыі, а толькі іх канкрэтную дзейнасць і таму сумы выдаткаваныя паводле каштарысаў радыкальна паменшыліся.

Найбольшай польскай арганізацыяй ў Чэхіі ёсць *Polski Związek Kulturalno-Oświatowy* (ПЗКО), які — паводле актывістаў — налічвае 21 тысячу членаў. Але са свайго панадворка ведаем як выглядае масавасць такога руху. ПЗКО мае дзесяткі хораў фальклорнай песні, танцавальных калектываў, арганізуе народныя фэсты. Іншыя арганізацыі — гэта суполкі, якія аб'ядноўваюць літаратараў, настаўнікаў, журналістаў, моладзь і г.д. Чэшскія палякі выдаюць штодзённую газету *Głos Ludu*, часопісы для дзяцей і моладзі, некалькі тыднёвікаў і двухтыднёвікаў, месячнікі. Свой часопіс — *Wiarus* — маюць нават ветэраны. Слухаючы выступленні чэшскіх палякаў, я зразумеў, што амаль усе меншасці маюць падобныя праблемы. Нягледзячы на існаванне польскіх школ усіх тыпаў і знакамітыя ўмовы для развіцця культуры, палякі наракаюць, што іх дзеці і моладзь у большасці гаворыць ужо на чэшскай мове.

З выступлення дарадчыка па справах польскай меншасці павятовага старасты ў Карвінку Яна Цыморка я зразумеў, што чэшская адміністрацыя зусім сур'ёзна ставіца да міжнародных трактатаў, якія падпісала дзяржава. Дарадчык — паляк па нацыянальнасці — сказаў, што ўсё дазволенае грамадзянам, што не забаронена правам. У кантактах з урадкамі палякі найчасцей карыстаюцца сваёй мовай, а адміністрацыя мае абавязак ведаць мову падаткаплацельшчыкаў і таму такую карэспандэнцыю не выкідае ў сметнік, але трактуе зусім нармальна.

— Найбольш антыпольскіх жэстаў можна спадзявацца з боку тых чэхаў, якіх бацькі былі палякамі, — сказаў дзеяч ПЗКО Альфрэд Калаж.

Свежаасіміляваныя палякі бываюць вельмі актыўныя ў доказах свае чэшскасці. „Адкуль мы, беларусы з Беласточчыны, ведаем гэту з'яву?" — падумалася мне.

Палякі на Заользі ў большасці — гэта пратэстанты. Цікавая справа ў тым, што каталікі і евангелісты прадстаўляюць там зусім розную псіхалагічную канструкцыю. Каталікі паводзяць сябе больш-менш так, як іх суродзічы на Беласточчыне. Перш за ўсё стараюцца даказаць, што яны — добрыя палякі. Пратэстанты — наадварот, спярша рэкамендуюць сябе як добрых людзей, грамадзян, якія сумленна выконваюць сваю прафесію.

Дзеяч палітычнага польскага руху пратэстанцкага веравызнання тлумачыў мне гэта так: „Нацыянальнасць можа мець толькі чалавек, а затым трэба перш за ўсё быць чалавекам. Я, як чалавек, маю сваю годнасць, а яна не дазваляе мне, напрыклад, памяняць нацыянальнасць толькі таму, што іншая дала б мне магчымасць лягчэй жыць".

**Яўген Мірановіч**


*"Польскі дом" у Астраве.*

# Курсы для дзеячаў з Беларусі

**Еўрапейскі фонд правоў чалавека — праграма PHARE /TACIS Дэмакратыя — ды Інстытут дзеля дэмакратыі ва Усходняй Еўропе (IDEE), пры садзеянні Беларускага саюза ў Польшчы і фонду Адукацыя для дэмакратыі арганізавалі ў днях 25—29 красавіка курсы для дзеячаў пазаўрадавых арганізацый з Беларусі.** Тры першыя дні ўдзельнікі курсаў праходзілі інтэнсіўныя вучэнні ў Гайнаўскім беларускім музеі, а на чацвёрты дзень, у памяшканнях „Нівы" і „Часопіса", пісалі свае праекты будучых мерапрыемстваў, фінансаванне якім магчымае згаданай праграмай.

Каб разабрацца ў гэтай блытаніне фондаў і праграм, якія нясуць святло дэмакратыі ў нашу глухую ваколіцу, некалькі слоў пра тое, як гэтыя курсы арганізоўваліся. А менавіта, **Павел Казанэцкі**, яшчэ нядаўна працаўнік Бюро па справах нацыянальных меншасцей Міністэрства культуры і мастацтва, цяпер ажыццяўляе, ад імя фонду IDEE, праграму дапамогі грамадскім арганізацыям у Беларусі. Аб'ездзіў ён Беларусь уздоўж і ўпапярок, прыглянуўся цікавым ініцыятывам у самых розных мясцовасцях, некаторым дапамог ужо камп'ютэрнай тэхнікай, іншым завязаць кантакты, а найбольш надзейных дзеячаў запрасіў на курсы ў Гайнаўку. На жаль, з запрошаных звыш трыццаці чалавек, прыехалі дваццаць, затое з самых розных мясцовасцей Беларусі: з Менска, Берасця, Магілёва, Віцебска, Полацка, Салігорска, Браслава, Глыбокага. Прадстаўлялі яны розныя арганізацыі і ўяўлялі сабой розную жыццёвую дасведчанасць. Сярод удзельнікаў курсаў былі выдаўцы газет і члены прафсаюзаў, мастакі-фатографы і літаратары, настаўнікі і краязнаўцы, адным словам шырокі спектр актыўнай часткі беларускага грамадства.

**А што сабой уяўляе праграма PHARE/TACIS Дэмакратыя, галоўны спонсар ідэі?** Гэта ініцыятыва Еўрапейскага Саюза, накіраваная на ўмацаванне дэмакратычных грамадстваў у адзінаццаці краінах Цэнтральнаўсходняй Еўропы, рэспубліках былога Савецкага Саюза і Манголіі. Галоўным чынам, праграма падтрымлівае дзейнасць пазаўрадавых арганізацый, пабуджае іх актыўнасць, што, безумоўна, спрычыняецца да стварэння стабільнага адкрытага грамадства. Адной з формаў рэалізацыі гэтай праграмы з'яўляюцца курсы для лідэраў арганізацый, такія як гэтыя ў Гайнаўцы.

Інструктары фонду Адукацыя для дэмакратыі на працягу двух дзён знаёмілі ўдзельнікаў курсаў з мэтамі дэмакратычных арганізацый, якасцямі добрага лідэра, вучылі планаванню дзейнасці і вядзенню перамоў. А ў пятніцу, 28 красавіка, дырэктар гэтага фонду **Кшыштаф Станоўскі**, навучаў, у які спосаб і дзе шукаць сродкі на сваю дзейнасць. У гэты самы дзень дырэктар Праграмы PHARE/TACIS Дэмакратыя **Збігнеў Лясоцік** тлумачыў прынцыпы складання праектаў, каб атрымаць фінансавую дапамогу з гэтай праграмы. „Галоўнае, што вы павінны запомніць, — казаў ён, — гэта тое, што грошы з'яўляюцца сродкам для ажыццяўлення задумы, не мэтай самой у сабе. Напачатак мусіць быць ідэя, потым людзі для яе рэалізацыі, а толькі наканец думайце аб патрэбных грошах".

Варта падкрэсліць, што курсы мелі арыгінальную форму. Інструктары не чыталі лекцый, а веды перадавалі ў форме супольных практыкаванняў, часта гульняў, але з глыбокім сэнсам. Удзельнікі курсаў спаткаліся таксама з дырэктарам фонда IDEE **Монікай Агапсовіч**, якая падала некалькі практычных парад, у які спосаб завязваць кантакты між арганізацыямі. Старшыня Беларускага саюза **Яўген Вапа** расказаў аб арганізацыйным жыцці беларусаў у Польшчы, праблемах і дасягненнях. У суботу, 29 красавіка, тыя ўдзельнікі курсаў, хто мае практычнае дачыненне да выдавецкай дзейнасці, наведалі рэдакцыю „Kuriera Porannego", дзе азнаёміліся з варункамі працы рэгіянальнай штодзёнкі.

Праграма занятак была перанасычана. Дзень пачынаўся ў 8.30, а канчаўся пасля 10-ай вечара. Ці гэтыя курсы дадуць плён? Хачу тут прывесці словы спадара Станоўскага: „Аб дасягнутых курсамі мэтах будзе сведчыць не тое, што пра яго напіша прэса, нават не ваша ўласная ацэнка, а тое, ці ўдасца вам потым выцягнуць з Еўрапейскага Саюза грошы на сваю дзейнасць".

**Мікола Ваўранюк**




*БАРЫС РУСКО*

**Камень**

Вада ўцякае.
А з губаў неба
споўз валун.
Маўчыць, бы з глыбі сонца
выняты.
Вочы-крышталь,
блішчаць нахабна,
засеклі кроплі поту
на лбе Прыроды.
Дзівоснае жыццё!
Ды нам не пад сілу
прасачыць яго да канца.

**Здалёку я**

Прыпадымаю вочы
з-пад распаленых павек
і сціраю ўсмешку-міраж.
Пяро ўпарта верціцца
ля аднаго пустога слова.
На асалоду — выпакутавана
думка.
Гляну яшчэ на палахлівы цень
ночы,
на абрысы сюррэалізму сну,
на залаты пясок
з-пад сіта мрояў і ўрэшце
ў шум хвілінаў мімалётных
шыбану.
Праменны ранак зварушыў
высокую струну інтыму,
ныраю ў бесцялесны круг,
што ўтварылі гукі скрыпкі.
Дзіўна, чаму не разумеў
дагэтуль я жыццёвай праўды?
У святла басейне сонечным
і ў цішы я — сусвет,
вялікі, як уяўленне,
і малы,
як крок у прасторы неба.
Пэўна таму і ўспрымаю боль,
і на алтар ускладваю я споведзь.
І ледзь нясе мяне глыток паветра.

**Дарога ў імгле**

Хто скажа, колькі мне чакаць
свайго світання,
патоку добрых вестак,
ночы жывой
і мёртвага болю?
Хто вызначыць прорву
між чэрняй і беллю,
маўчаннем і крыкам,
і паміж мною і гарызонтам,
што ўцякае?
І як паклікаць:
да ног — непрызыўнае,
да вачэй — нявіднае,
да мараў — няўяўнае?
Як ісці некранутым —
шыпам жыцця
і самім сабою,
і званамі ілюзіі?
Як сказаць Табе,
што:
усмешка — гэта плач,
а сонца — гэта месяц,
а тое, што будзе,
даўно ўжо было?
Як зразумець сэнс прамінання
без адчыненых дзвярэй
і надзею — без клікання?

**Адчуванне**

Толькі ў бясхмарную ноч
побач мяне ўсе зоркі
і ўсе планеты,
і адчуваю пульс неба.
Божа!
Хто я ў абдымках праўды?
І што такое свет,
ледзь чутны,
незразумелы?
І чаму бярэш жыццё,
быццам было зацесна
ў бязмежжы?

## Куды, васьмікласнік?

Да 15 мая можна раздумваць, куды паступіць у сярэднюю школу.

У Беластоцкім ваяводстве для 11 тысяч вучняў восьмых класаў пачатковых школ падрыхтавалі амаль 11,5 тысяч месц у звышпачатковых школах. Практычна ўсім павінна хапіць месца за партай. Найбольш, бо ажно 4 168 месц прапануюць агульнаадукацыйныя ліцэі з чатырохгадовым, агульным профілем навучання, якія даюць магчымасць здаваць на атэстат сталасці і адкрываюць дарогу ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Атэстатам сталасці канчаецца адукацыя і ў чатырохгадовых прафесіянальных ліцэях (750 месц), а таксама ў тэхнікумах і ў раўнапраўных ім школах (эканамічныя, гандлёвыя, мастацкія ліцэі) — 2 676 месц, дадаючы да агульнай падрыхтоўкі таксама прафесіянальную.

Каб здабыць прафесію, васьмікласнікі могуць збірацца ў трохгадовыя прафесіянальныя вучылішчы, дзе чакае іх 3 866 месц. Практычную падрыхтоўку да прафесіі вучні праходзяць ля школьнага станка, на прадпрыемстве або ў майстэрнях рамеснікаў.

Каб трапна выбраць сабе прафесію, васьмікласнікі павінны параіцца ў настаўнікаў, а ў некаторых выпадках звярнуцца за дапамогай у псіхалагічна-педагагічную кансультацыю.

**(яц)**

# МАЕ ВЕРШЫ

*Музыка Сяргея Лукашука* · *Словы Віктара Шведа*

У маіх вершах — сэрца насцеж,
Праўдзівасць пройдзенага, дум.
У маіх вершах — маё шчасце
І ў перамежку боль і сум.

У маіх вершах — мае слёзы
Ад шчасця, ад трывог, бяды,
Бо раз на возе, раз пад возам
Мае імчаліся гады.

Бурліць у вершах безупынна
Мая гарачая любоў
І да народа, да Айчыны,
І да бацькоў, і да сяброў.

У мае вершы пераліта,
Як кроў у вены, пачуццё,
Усё, што мною пражыта, —
Усё-усё маё жыццё.

C-m f-m G7 C-m
1. У МА - ІХ ВЕР - ШАХ СЭР - ЦА НАС - ЦЕЖ,
2. У МА - ІХ ВЕР - ШАХ МА - Е СЛЁ - ЗЫ
3. БУР-ЛІЦЬ У ВЕР - ШАХ БЕ - ЗУ - ПЫН- НА
4. У МА - Е ВЕР - ШЫ ПЕ - РА - ЛІ - ТА.

C-m f-m B B7 Es G7
1. ПРАЎ-ДЗІ-ВАСЦЬ ПРОЙ- ДЗЕ - НА - ГА, ДУМ.
2. І АД ШЧАС - ЦЯ АД БЯ - ДЫ,
3. МА - Я ГА - РА - ЧА - Я ЛЮ - БОЎ
4. ЯК КРОЎ У ВЕ - НЫ ПА - ЧУЦ - ЦЕ.

C f-m B B7 Es
1. У МА-ІХ ВЕР - ШАХ, МА - Ё ШЧАС - ЦЕ
2. БО РАЗ НА ВО - ЗЕ, РАЗ ПАД ВО - ЗАМ
3. І ДА НА - РО - ДА, ДА АЙ - ЧЫ - НЫ,
4. У - СЁ ШТО МНО - Ю ПЕ - РА - ЖЫ - ТА,-

f-m C-m G G7 C-m
1. І Ў ПЕ -РА МЕЖ - КУ БОЛЬ І СУМ.
2. МА - Е ІМ -ЧА - ЛІ - СЯ ТУТ ГА - ДЫ.
3. І ДА БАЦЬ - КОЎ МА - ІХ, І ДА СЯБ - РОЎ
4. У - СЁ, У - СЁ ЖЫЦ - ЦЁ, МА - Ё ЖЫЦ - ЦЁ.

C f-m B B7 Es
1. У МА-ІХ ВЕР -ШАХ, МА - Ё ШЧАС - ЦЕ,
2. БО РАЗ НА ВО - ЗЕ, РАЗ ПАД ВО - ЗАМ
3. І ДА НА - РО - ДА, ДА АЙ - ЧЫ - НЫ,
4. У - СЁ ШТО МНО - Ю ПЕ - РА - ЖЫ - ТА,

f-m C-m G7 C-m
1. І Ў ПЕ - РА МЕЖ - КУ БОЛЬ І СУМ.
2. МА - Е ІМ - ЧА-ЛІ - СЯ ТУТ ГА - ДЫ.
3. І ДА БАЦЬ - КОЎ МА - ІХ І ДА СЯБ - РОЎ
4. У - СЁ, У - СЁ ЖЫЦ- ЦЁ, МА - Ё ЖЫЦ- ЦЁ.

f-m C-m B Es f-m C-m G7 C-m

# МЕЛАНІЯ БУЖЫНЬСКА

Нарадзілася 1 жніўня 1917 года ў вёсцы Ясьвілы на Беласточчыне, дзе пастаянна пражывае. Піша вершы, песні, апавяданні, казкі, сатыры, эпіграмы, а нават сцэнічныя творы. Выдала зборнікі паэзіі: „Poezja życiem pisana" (1977) і „Słowa jak chleb pachnące" (1987), а таксама том успамінаў „Szara przędza" (1977).

**Вясковая хата**

Вясковая хата старая
аазісам лёсу майго ты
спакойна тут адпачываю
пасля бур жыццёвых, турботаў

Бацькоўская ціхая хата
з маёю калыскай дзіцячай
я многа ў жыцці пражыла тут
сноў шчасця, любові гарачай

Акенцы два з боку фасада
і ластавак гнёзды пад дахам
жыццёвыя з хаты прылады
пайшлі у нябыт сваім шляхам

І хаты старое не стала
у добрыя й злыя хвіліны
жыве яна ў сэрцы трывала
і ў цёплых маіх успамінах

**Беласточчына**

твае зялёныя валасы
залаты хлебны твар
вачыма азёр глядзіш
у чысты блакіт
птушынай песняй раю
вітаеш світанак
і зару захаду
купаешся ў сонцы
— зямля дзявочых грудзей
поўных мёду і малака
пяеш мне калыханку дзяцінства...

зямля з прывабным станам
у пацерках рабін
перавязаная блакітнымі
стужкамі рэк
лёгкім крокам ідучая
шляхам прагрэсу
найбольш працавітая наганяючая
шматвяковую адсталасць

зямля пахілых крыжоў
яцвяжскіх курганоў
помнікаў мінуўшчыны
на якіх вячэрняя ціш
пяе мне песню развітання
на начны спачынак
якая плаксівай бярозай
будзе шумець сваю песню
над маёй магілай
— табе вітанне!

**Табе не жыць у вёсцы**

а чаму?
прышпіліла мяне жыццё
ад самага нараджэння
да вясковай зямлі

малаток дзён
пастаянна ўбіваў
цвікі тыдняў
месяцаў
аж прыбіў мяне
назаўсёды
да яе
вялікімі цвікамі гадоў

хоць часам
балюча калечаць
не адарвуся
ад яе
калі сама
прыбілася
найвялікшым цвіком
сэрца
аж па апошні цвік
убіты ў труну

**Карціна ў рамках дня**

жылы скібаў зямлі
пульсавалі радамі буракоў
у люстры цішы
прагдядаўся спеў жаваранка

бусел-аператар
здымаў з ластаўкамі фільм
які дэманстраваўся на экране сажалкі
гледачамі былі дзеці
што мачылі ў ёй ногі

сонца на пэндзаль промняў
набрала залатых фарбаў
і запырскала зямлю
абы-як
падпісваючы карціну
Пікасо

час-паяц
павіс на залатым
цвіку сонца
— галоўны акцёр
у камедыі вечнай працягласці
у трагедыі прамінання...

**Дзень як штодзень**

напяты лук гарызонту
выпусціў стралу сонца
прабіваючы дыск вакна
паражаючы зрэнкі вачэй
бласлаўленнем новага дня

на ранішні заклік да працы
ногі ў рызінавых ботах
абмяталі траву панадворка
з расы
дзень адчыняў вароты абораў
мычаннем жывёлы

і цягнуць людзі
свой жыццёвы воз
борздымі коньмі працы
пакуль колы гадоў
не пагубяць апошняй
спіцы дзён...

*Пераклаў Віктар Швед*

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Лёнік у бельскай „тройцы”

Пра сустрэчу з Лёнікам Тарасэвічам мараць многія вучні і настаўнікі. І вось, нядаўна, славуты мастак наведаў трэцякласнікаў з бельскай „тройкі”. Вучні гэтага класа і іхняя настаўніца Аліна Ваўранюк — старыя знаёмыя мастака. І як тут не наведаць такіх дзяцей? Разам з Лёнікам паехала і „Зорка”.



Ужо з самага парога прывіталі нас воклічы энтузіязму. Дзеці, відаць, даўно ўжо чакалі такой сустрэчы. Хутка склеілі яны даўжэзны кавалак паперы і пачалі рысаваць прапанаваную мастаком карціну. На недзе шасціметровай паперы дзеці малявалі ўсе поры года — вясну, лета, восень і зіму. Дзіўна толькі, што ніхто не хацеў рысаваць Бельска, а толькі вёскі, адкуль паходзяць іхнія бацькі ці самі вучні. І так у восеньскай, зімовай, вясенняй і летняй абстаноўцы выраслі Відава, Мілейчыцы, Боцькі, Зані. У кожнай вёсцы, як правіла, знаходзілася царква і праваслаўныя крыжы. Побач стройных і сціплых дамоў лёталі буслы (вясной), галкі (зімой), было шмат дрэў, кветак, ручаёў. Па вуліцы бегалі сабакі, ездзілі машыны, трактары і фурманкі. У Мілейчыцах і Занях паявілася нават рэдакцыя „Зоркі”.

Гэты прыгожы супольны малюнак трэцякласнікі павесяць у сваім класе. Упрыгожыць ён іх школьнае памяшканне. Калі дзеці будуць спаглядаць на сваю карціну, напэўна прыпомняць незвычайную сустрэчу з Лёнікам. Мастак так зацікавіў маляваннем сваіх слухачоў, што некаторыя ўвогуле не хацелі ісці дахаты. Яшчэ доўга хадзілі яны побач Лёніка і прасілі аўтографы і малюнкі. Добра, што з'явіўся другі рысавальшчык — Юрка Асеннік. Ён (на верхнім здымку першы справа) дапамагаў Лёніку падпісваць шматлікія кніжкі, коміксы і карткі, якія падсоўвалі вучні. І мне было цяжка расставацца з гэтымі сімпатычнымі дзецьмі.



**Ганна Кандрацюк**

P.S. Чытачы „Зоркі” могуць здзіўляцца, чаму так часта прадстаўляем дзетак з бельскай „тройкі”, а апошнім часам клас III „е”. Адказ просты. Самі дзеці і іхняя настаўніца — даўнія сябры нашай дзіцячай старонкі. Яны не забываюць дзяліцца з нашымі чытачамі сваімі радасцямі, расказваць пра ўсе важныя здарэнні. Хаця трэцякласнікі толькі што пазнаюць мову, ужо бяруцца чытаць „Зорку”. Ёсць і такія, што сумеюць прачытаць цэлую старонку. А іхняя настаўніца, хаця і не беларусістка, з'яўляецца самай актыўнай карэспандэнткай нашай беларускай дзіцячай старонкі.

**Г. К.**

## Вучнёўская творчасць

### ПРЫЙШЛА ВЯСНА

Прыйшла вясна.
Ой! якая яна харошая!
На лугах кветкі цвітуць,
а ў лесе птушкі пяюць.
Мядзведзь выйшаў з нары,
ён есці хоча, галодны...
Уся прырода будзіцца да жыцця,
і гэта знак, што ўжо вясна.

### КНІЖКІ

На паліцы ў пакоі
Стаялі кніжкі ў спакоі.
Прыйшоў Пеця, кніжку ўзяў,
І адну зусім парваў.
Прыйшла мама, Пецю бачыць
І яму давай тлумачыць:
— Не бяры ты больш ужо кніжак,
Лепш ідзі на луг пабегаць,
Там скажу табе пра тыя кніжкі
Што ядуць такіх хлапчышкаў.
З той пары наш Пеця стаў
З дзецьмі весела гуляць.
І калі ў школу ішоў,
Кніжкі шанаваў, не рваў!

**Бася Ляўчук**
**VI клас**
**Пачатковая школа ў Орлі**

## Загадкі

Ішла панна ўначы, згубіла ключы, месяц бачыў, а сонца падняло.

*

Цераз палі, цераз лугі, спусціліся канцы дугі.

*

Мяне ўсе просяць, мяне ўсе чакаюць, а як толькі з'яўлюся, хавацца пачынаюць.

*

Каля носа ўецца — у рукі не даецца.

*

Бегла ліска каля лесу блізка, ні сцежкі, ні дарожкі, толькі залатыя рожкі.

*

Зароў вол на сто гор, на сто печак, на сто рэчак.

*Адказы: раса, вясёлка, дождж, вецер, маланка, гром.*

## Прыміце віншаванні!



На здымку **МАРТА АЛЕКСЯЮК, АНЯ СІДАРУК** і настаўніца беларускай мовы **Ірэна Ефімюк.**

**Марта Алексяюк** (справа) — вучаніца восьмага класа. Яна заваявала I месца ў беларускім прадметным конкурсе. Зараз Марта можа паступаць у любую школу ў Польшчы без экзаменаў. Дзяўчынка родам з Дэнісак. У яе вёсцы нямнога дзяцей. Толькі 5 сяброў Марты з яе сяла ходзяць у пачатковую школу. Сама дзяўчынка вельмі любіць спяваць беларускія песні. На жаль, „Зорцы” нічога не заспявала, бо якраз Марце балела горла.

Апрача спявання нашая выдатніца любіць чытаць кніжкі. Як призналася, усе яе сяброўкі і яна сама чытаюць кніжкі пра каханне. Не дзіва, Марта — васьмікласніца.

**Аня Сідарук** (побач) не любіць фатаграфавацца. Калі я рабіла гэты здымак, сябры Ані стаялі насупраць і рассмяшалі дзяўчынак. На здымку відаць, што ім гэта ўдалося. Нават пані **Ірэна Ефімюк** усміхнулася. „Зорка”, зразумела, дзякуе ўсім „рассмяшальнікам”.

Аня нядаўна ўдзельнічала ў дэкламатарскім конкурсе. Чытала твор пра Францішка Скарыну. Да хаты вярнулася як заваёўніца III месца. Аня змагалася аж у цэнтральных элімінацыях. Сама дзяўчынка ў VI класе.

— Беларуская мова гэта мой самы любімы прадмет, — призналася шасцікласніца. У вольныя хвіліны дзяўчынка чытае кніжкі. Асабліва падабаюцца ёй прыгодніцкія раманы. Жыве ў вёсцы Кнаразы. Мае там шмат сяброў. Разам з Аняй аж 25 дзетак штодзённа даязджае ў Храбалы вучыцца. Тут абавязкова адзначу, што з Кнаразоў амаль усе вучні ходзяць на ўрокі беларускай мовы.

Жадаю вам, сябры, і далейшых поспехаў! Добра, што ёсць яшчэ такія дзеці, якія з пашанай і любоўю ставяцца да роднай спадчыны.

**З-ка**




**Дарагая „Зорка"!**

Пішуць, знаёмыя ўжо Табе, вучні V класа са школы ў Чыжах. На ўроку беларускай мовы мы чыталі апавяданне „Рагнеда-Гарыслава". Потым усе мы выконвалі рысункі. Найлепшыя з іх пасылаем Табе, з надзеяй пабачыць іх у „Зорцы".

**Агнешка Качаноўская,**
**Юліта Гаўрылюк,**
**Пётр Дземянюк.**

**Ад рэдакцыі:** Усе вы: Агнешка, Юліта і Пятрусь, атрымаеце ад „Зоркі" гістарычныя кніжкі.



*"Княгіня Рагнеда-Гарыслава".* **Мал. Юліты Гаўрылюк**



*Пяцікласнікі з Чыжоў з настаўнікам Янкам Карчэўскім.* **Фота Г. Кандрацюк**

# ПЕСЕННАЯ ПАЛОСКА

## Краіна, сэрцу родная

*Сл. Алеся Бадака*
*Муз. Змітрака Яўтуховіча*



Даль прастораў, сонца поўная,
Сінь азёр і шыр палёў.
Беларусь-краіна, сэрцу родная, } 2р.
Наша слава і любоў.

Ты нямала гора зведала,
Праліла нямала слёз.
На зямлі заўсёды разам з кветкамі } 2р.
і палын тут горкі рос.

Новы дзень над шумнай ніваю
Запаліў ужо зару.
Дык жыві свабоднай і шчасліваю } 2р.
Дарагая Беларусь.

Творчасць нашых суродзічаў

# Віта Курбека

Дзяўчына вучыцца ў VI класе 16 школы ў Менску. Пра дзіцячую творчасць сказала:

— Юнае тым і цікавае, што яно юнае. Не глядзіце на яго з дарослай паблажлівасцю.

Друкавалася на старонках „Першацвету". Вось яе некаторыя вершы.

### Вясна

Прыгажуня ты, вясна,
дзеўка сінявокая.
Лес прачнуўся, і зямля,
і рака глыбокая.
Колькі шчасця!
Колькі спеваў
навокал звініць!
Людзі, птушкі, кветкі, дрэвы
пачынаюць жыць.
Ручайкі-балбатуны
песеньку спяваюць
і прыгожае вясны
цеплыні чакаюць...

### Раніца

Бы на вогненным кані,
сонца ўскочыла на неба,
каб расло тут, на зямлі,
кветак шмат, калоссяў хлеба.
І ўжо грае залаты
сонечны праменьчык,
зззяе кропелька расы,
як крышталь-каменьчык...

### Ручаёк

Між бярозак, паўз лясок
цячэ, грае ручаёк.
Ён у залатым каптане,
нібы ў сонцавым убранні.
То ён песню заспявае,
то на гуслях ён зайграе.
І бяжыць, бяжыць, бяжыць —
толькі сонца ў ім дрыжыць!

* * *

Цямнее. Ціха. Вечарэе.
І месяц, як падбел, жаўцее.
Трашчаць у траўцы конікі,
за горкаю спіць сонейка...
А заўтра ўсё жывое
яно ізноў разбудзіць,
дасць шчасце і пяшчоту
жывёлам, птушкам, людзям...

### Кося

Кося наш буланы
З чорнымі вачыма
Ўстае вельмі рана,
Рыпае дзвярыма,
Ідзе на мураўку
На нашым падворку,
Возьме ў губы траўку,
Быццам з неба зорку.

Веснавой вадзіцы
Асверам дастане,
Просіць нас напіцца,
Калі ўстанем з рання.
Ідзе з плугам конік,
Калі мы ў школу.
Вокам нас дагоніць
Зморанным, вясёлым.

**Міра Лукша**

# Пра мядзведзя і пеўня

*(беларуская народная казка)*

У аднаго селяніна быў дурны сын. Папрасіў дурань, каб бацька яго ажаніў.

— А калі не ажэніш, усю печ развалю! — пагражаў той сын.

— Як жа мне цябе ажаніць, — клапаціўся бацька, — у нас грошай няма.

— Грошай няма, дык вол ёсць. Прадайце, тата, яго на грошы.

Пачуў гэта вол і ўцёк у лес.

А дурань зноў начапіўся: „Жані, а не — то печ паламаю!"

Бацька зноў тлумачыць, што грошай няма.

— Але баран ёсць! — упіраўся сын. — Прадай яго на бойню.

Пачуў гэта баран і ў лес уцёк.

А дурань зноў ад бацькі не адыходзіць:

— Жані мяне, а то печ развалю!

— Я ж табе кажу, што грошай няма, — адказвае бацька.

— Грошай няма, дык певень ёсць, засячы яго, спячы пірог і прадай!

Пачуў гэта певень і ў лес паляцеў.

Вол, баран і певень зышліся разам і пабудавалі ў лесе хатку.

Мядзведзь пачуў гэта, захацеў іх з'есці і прыйшоў да хаткі. Певень пабачыў яго, заспяваў, крыламі замахаў, нарабіў крыку.

— Куды-куды-куды! Падайце мне яго сюды, я яго нагамі затапчу, тапаром засячу! І нож тут, і вяроўка тут, пахаваем мядзведзя тут!

Мядзведзь, зразумела, перапалохаўся і назад ускочыў. Бег, бег, ад страху ўпаў і памёр.

У той час і дурань выйшаў у лес. Бачыць мядзведзь ляжыць.

Зняў з яго шкуру і прадаў. На гэтыя грошы і ажанілі хлопца. А воўк, баран і певень з лесу дахаты вярнуліся.

**З-ка**

Гульня

# ЗЛАВІ МЯЧЫК

Дзеці разбіваюцца на дзве групкі. Ад кожнай групкі на сярэдзіну пакоя выходзіць хлопчык ці дзяўчынка. Яны павінны дзвюма рукамі падкінуць мячык угору, над галавой, а пасля злавіць яго, перадаць іншаму гульцу.

Выхавацелька запрашае да гульні:

*Мячык-скачык,*
*Лятаць вучыся!*
*Ты з рук узляцеў*
*І ў рукі вярніся.*

Дзеці па чарзе падкідваюць мячык угору. Адны ловяць яго, другія — не: мячык падае на падлогу. Выхавацелька сочыць, у якой групы мячык даўжэй лётае ў паветры. І аб'яўляе, хто перамог у гэтай гульні.

*Сцяпан Абух*

# З запісаў нацыяналіста

***11. Спроба структуралізацыі***

Вава Мацько, прыгадайма гэта, стаў першым прэзідэнтам Згуртавання выхадцаў Зоны, якое сфармавалася па-за Зонай. Згуртаванне выхадцаў было ў той час самым магутным арганізмам, які вярнуўся ў Зону і дзейнічаў у ёй. Згуртаваннем выхадцаў моцна карысталася Нацыянальная дэмакратыя Зоны ў пачатку свайго існавання, калі яе прэзідэнтам быў Арыстоцель Ванько. Вава Мацько цярпеў гэта нейкі час, але ў канцы, на адным са з'ездаў Згуртавання, катэгарычна заявіў: „Дзеячы Нацдэмзона павінны ў канцы зразумець, што наша Згуртаванне з'яўляецца партнёрам, а не інструментам для латання дзірак у іхняй дзейнасці".

Дзеячы Згуртавання выхадцаў Зоны паступова склалі карань Нацыянальнай дэмакратыі Зоны. Прэзідэнтам Нацдэмзона стаў Лацыс Даўжэня — удзельнік Згуртавання выхадцаў ды вялікі стаўленнік Арыстоцеля Ванько. Пасля двух гадоў дзейнасці ў такой канфігурацыі дзеячы Згуртавання выхадцаў Зоны звялі Нацыянальную дэмакратыю Зоны амаль да нуля і хацелі былі ўжо яе канчаткова „вырашыць", распускаючы арганізм, але Арыстоцель Ванько катэгарычна супрацьставіўся ды смяртэльна загневаўся на маладых дзеячаў, называючы іх нядзатнымі ні на што, непісьменнымі, няўмекамі ды наогул такімі, з якімі не варта траціць час. Кіраўніцтва Нацдэмзонам абняў Груган Харыст.

Вава Мацько гэтым часам займаўся навуковай дзейнасцю. Арганічна не быў звязаны з аніякім арганізмам Зоны. Цягнулася аднак за ім слава першага прэзідэнта Згуртавання выхадцаў Зоны. Калі Хвядос Юрыга стварыў Звяз Усяго і Усіх у Зоне, як завяршальны арганізм усёй зонаўскай структуры, нейкі час быў ён без кіраўніка — дакладней кажучы, існаваў Звяз Усяго і Усіх ды яго пячатка. І Вава Мацько рашыўся стаць прэзідэнтам усіх прэзідэнтаў у Зоне.

І сталася так на адмысловым кангрэсе Звяза Усяго і Усіх у Зоне.

Зонаўская эліта пахваліла гэтую рэанімацыю Звяза Усяго і Усіх, які ў сваёй задуме меў быць самым прэстыжным арганізмам Зоны. Вава Мацько быў перапоўнены энергіяй і меў ахвоту.

Першым крокам Мацько было скліканне пасяджэння ўсіх арганізмаў-удзельнікаў Звяза Усяго і Усіх у Зоне — дзеля навядзення парадку. Пасяджэнне гэтае папярэдзіла публічная заява В. Мацько на калонках „Гоняў", у якой ён запэўніў, што ў Зоне ўсё магчыма, а ён сам — не шаленец.

Вава Мацько доўга і старанна рыхтаваўся да гэтага першага пасяджэння. Правёў ён неабходную кансультацыю ў зонаўскіх асяроддзях. Лацыс Даўжэня, да якога, між іншым, звярнуўся Вава Мацько, сказаў яму наступнае.

— Памятай Ваўка (*націск на першым складзе* — С.А.), што мы, зонаўцы, найлепей працуем, калі маем над сабой пугаўё. Памятай таксама, што ты гэтага пугаўя не маеш.

Вава Мацько, як і кожны зонавец, меў клопат з завучэннем усіх арганізацыйных утварэнняў у Зоне, таму да пытання гэтага падышоў метадычна. Яшчэ да пасяджэння сеў сабе ў хаце, узяў некалькі лістоў паперы, пасклейваў іх з сабою ды нарысаваў на гэтай плахце ўсю структуру Зоны, з усімі фармальна-арганізацыйнымі залежнасцямі і вытанчанасцямі. Затым угледаўся ў сваю працу якую гадзіну, спрабуючы агарнуць свой новы панадворак.

Пасяджэнне Звяза Усяго і Усіх у Зоне, а лепш гэта назваць — Генеральнай Прэзідэнцкай Асамблеяй, мела стандартны ў Зоне ход. Вава Мацько пачаў, як яму здавалася, з самай важнай справы — грошай.

— Хай кожны прэзідэнт — папрасіў ён, — скажа якімі фінансавымі сродкамі распараджаецца яго арганізм.

Першым адказаў яму прэзідэнт Нацыянальнай дэмакратыі Зоны Груган Харыст.

— Спадар Мацько, — пачаў ён, — скажу вам коратка і палітычна. На рахунку Нацдэмзона ў банку адзінаццаць любагорскіх палюбоўнікаў і два замбарскія сцервінгі. Пяты ўжо год дзейнічаем з такім бюджэтам.

Быў гэта фактычны і практычны канец пасяджэння. Вава Мацько абамлеў.

У той жа дзень вечарам Вава Мацько яшчэ раз угляпуўся ў сваю графічную структуру. Адчуваў сябе не найлепей — надыходзіў, як яму здалося, псіхічны крызіс. І захапіў бы яго цалкам, калі б не жонка, якая выхінула з другога пакоя.

— Чаго так мучышся? Хадзі лепш удваіх паструктуралізуемся...

## У кіпцюрах цецерука

# Аб'язная крамка

Ранішнюю цішыню раздзірае сігнал клаксона.

— Нінка! — чую за акном Панасаў голас, — Нінкааа! Паглядзі што там. Хіба ж Сонька з таварам прыехала?

Дашчэнту разбуджаны і клаксонам, і суседавым крыкам выглядаю цераз акно. На вуліцы сапраўды спыніўся нейкі самаход, да якога курыным трушком спяшаюць жанчыны. Туд-сюд прыхарошвае грамаду і мужчынская постаць, з рукамі глыбока ўбітымі ў кішэні, з блакітнымі воблакамі тытунёвага дыму па-над галовамі. Самаход аднак незнаёмы, замежны якісьці, ды куды прыгажэйшы за Сонькчыну „Нысу". Цэлае здарэнне абазначае нейкую навізну, мо нават перамену і толькі таму вывалакаю з хаты сваё нязграбнае цела. Мне, як кожнаму сапраўднаму мужчыну, усё што новае — страшнае, а адначасова вельмі цікавае, цягне да сябе, заве і вабіць.

— Чым таргуюць? — пытаю суседа.

— А новыя нацыянальнасці прывезлі, — адказвае той і сунецца між баб, бліжэй кузава.

„Жартуе, — думаю, — як гэта ён заўсёды. Хаця... хіба не".

Прыслухоўваюся гамонцы. Які чорт? Праўда гэта, ці сон?

— Пан, пан, а балгарская ёсць? — пытае нейкі голас.

— Ёсць і балгарская. — адказвае купец.

— Нінка, ты якую ўзяла?

— Украінскую. Глянь толькі, прыгожая-прыгожая.

— Ой, праўда. Хіба таксама вазьму, — і Оля, самая найлепшая Нінчына сяброўка, перасоўваецца бліжэй прылаўка.

— Пан, для мяне рускую!

— Літоўскую!

— Польскую! Для дваіх, мне і старому, — гэта Каця, цешча Елі, прывезенай Каціным сынам з-пад Груйца маладзіцы.

— А-я-яй! — гамоніць сабе ды другім. — Дзеці прыедуць, і сваты, а тут такая неспадзяванка будзе! Такая неспадзяванка.

Банкноты ў сукатых далонях танцуюць перад вачыма прадаўца. Ён глядзіць у натоўп і прыгожа ўсміхаецца.

— Памаленьку, без нерваў. Усім хопіць. У нас усё і ўсім. Бярыце, выбірайце! — расхвальвае тавар. — Новая нацыянальнасць — новае жыццё!

— Пан, а філіпінская, ёсць, — пытае Антаніха і раптоўна моўкне, курчыцца, атрымаўшы штуршок з рукі шлюбнага.

— Дура ты! — сычыць Антон. — Ты ведаеш, дзе яны, гэтыя Філіпіны. За запаснымі часткамі за што паедзем, калі спатрэбіцца?

— Ды я толькі так, мімавольна. Тамашнія кабеты такія красуні, такія красуні, — Антаніха апускае галаву і ніхто не бачыць, што ў яе вачах паблісквазоць слёзы.

Цяпер і я набіраю смеласці.

— А беларуская ёсць? — пытаю.

— Ну, беларускае няма.

— Дык што гэта за магазін. У Сонькі, вось дык першакласная крама. Там сапраўды ўсё! І мыла, і мука, і башмачкі, — пачынаю пералічваць.

— У Сонькі, у Сонькі, — прадавец насуплівае бровы. — А малако ў Сонькі ёсць? — пытае нечакана.

— Малака, праўда, няма. Дык у нас свайго, што ўтапіцца можна, — падказвае нехта.

— Вось бачыце самі. Таму і беларускай няма, — прадавец канчае дыскусію і пачынае згортваць банкноты ў прыгожыя копкі.

**Міхась Андрасюк**

# Беларусам быць небяспечна

Цяпер найбольш небяспечна беларусу ў Беларусі. Ужо не проста сорамна, як найменш апошнія сорак гадоў, „дзеравеншчынай" пахнуць бы тым гноем-карміцелем, пакутаваць за родны „язык" у школе, ва ўстанове, на вуліцы. Цяпер, праўда, пакуль яшчэ не расстрэльваюць, хоць ружжа канвенцыянальнага і больш далікатнага ўдосталь, але прыйдзецца неяк бацькам народа прывесці ў прытомнасць блудных сыноў, вярнуць на месца, у сенцы, а не на пакоі панскага двара. Сёння п'яны недамыты „рюскі" хам кідаецца з нажом у цэнтры беларускай сталіцы на жанчын, што гамоняць на дзяржаўнай мове, прымушае „павініцца" і на каленях прасіць у яго прабачэння за абразу. За ім стаіць, ён упэўнены, не яго п'яная тусоўка, а большая сіла, якая зможа кінуць на калені не толькі „чурак", як ён іх называе. Яна будзе стаяць разам з ім за яго айчыну ад Брэста да Курылаў, і не супраць, каб яшчэ больш было „нашага". І няма сілы, якая ўступілася б за нікчэмных нягоднікамі, якія не ўмеюць быць удзячнымі за падачку і выцягнутую братэрскую руку (яна, міласэрная і добрая, верных братоў пагладзіць па галоўцы).

Ну, так яно і будзе, пэўна, што беларусаў застанецца добра калі чатырыста душ, і то на Беласточчыне (мяркую гэта па верных падпісчыках „Нівы"), як у нейкім запаведніку, на паказ і кантраляваны расплод, каб не прапала нацыя, якая будзе цікавінкай для Еўропы і свету: здараюцца ж цуды натуры. Тады і з Белай Русі прыязджаць будуць дзеячы і пісьменнікі, каб паказаць сваім дзецям і ўнукам, якіх таксама па-беларуску не навучылі размаўляць, а нават і чытаць, што існуе яшчэ беларуская мова; тады і самі гэтыя „носьбіты мовы" пахваляцца перад намі, што мова валодаюць, і нават за пару хвілін, якія з імі страцім, скажуць нам: „Дзякуем вас". Хіба з іх усіх можна верыць толькі Анатолю Сысу, паэту, але ён сына не народзіць і не выхавае, каб яго навучыць быць беларусам.

На апошнім з'ездзе беларускіх пісьменнікаў „баталісты" і „марыністы" (адкуль марыністы ў сучаснай Беларусі?) проста ў вочы сказалі ўсёй беларускамоўнай рэшце: „Чаго вы разбалбаталіся пра нейкую „мову"? Яе ж у Беларусі няма, і вы самі пра гэта выдатна ведаеце!". Два дні радзілі пісьменнікі, што зрабіць, „каб не ўмерці". Моцна трымаліся за трыбуну, не далі ўзлезці за яе „не-членам" (Рада раней адмовілася прыняць у члены маладога празаіка К.). Пра нашых „белавежцаў" таксама загаварылі — старшыня, які раней сам запрапанаваў прыняць у Саюз пісьменнікаў Беларусі „белавежцаў"-членаў Саюза польскіх пісьменнікаў без усяе працэдуры, паводле якой прымаюць у СПБ сваіх пачаткоўцаў (вельмі часта так бывае), выказаўся вельмі абразліва наконт прыняцця „ўсіх „белавежцаў". Іх прафесійнасць мае сцвердзіць камісія прозы і паэзіі, зацвердзіць Рада. Я быў аднойчы на пасяджэнні такой камісіі: за сталом сядзела каля дваццаці творцаў, сярод якіх прозвішчы недзе пяці нешта ўяўлялі. Разглядалася творчасць маладых празаікаў-фантастаў. Дзве гадзіны той, хто прачытаў сёетое з таго, з чым раней павінны пазнаёміцца ўсе члены камісіі, каб ведаць, пра што размаўляюць, перадаваў змест паасобных твораў. Толькі адна асоба выказалася адносна формы і майстэрства, дала нейкія парады маладым пісьменнікам, што сціпла прыслухоўваліся наradзе пад вокнамі. Адна літаратурная цётка чвэрць усяго часу злавалася на мяккі знак (які паспрыяе таму, маўляў, што кніжка будзе таўсцейшая!), адзін мілы дзядзька выказваўся, як сам заявіў, на „руска-беларускай мове". Цікава, якая камісія мела б разглядаць творчасць Яновіча, Артымовіч, Чыквіна?.. Нейкі З., нейкая З., нейкі Ж.?..

Ага, прыслалі ўжо „белавежцам" „паперы" адносна прыняцця іх на разгляд камісіяй. Паперыны старыя, пытанні там таксама моцна актуальныя і вельмі ж істотныя: калі яны былі ў партыі, а можа ў камсамоле, якія дзяржаўныя ўзнагароды атрымлівалі?.. Думаў чалавек, вось гонар быць не толькі членам польскага **прафесіянальнага** саюза пісакаў, але вось і беларускага, **уступіць** у іхнія рады. Але ж **яны** глядзяць на нас як на тых, хто суне сваё рыльца ў іхнюю няпоўную місачку.

Каго „беларускасць" яшчэ корміць, хоць марненька, той пільнуе свае скібачкі. Небяспечна быць беларусам...

**Вандал Арлянскі**

# 4-я нядзеля пасля Вялікадня

*(Іаан, 5: 1-15)*

У пятым раздзеле Евангелля паводле Іаана змешчана апавяданне пра аздараўленне расслабленага. Сярод мноства нядужых, якія спадзяваліся акунуцца ў ваду купальні Віфезда, што час ад часу набывала лекавай моцы, 38 гадоў знаходзіўся адзін няшчасны чалавек. Яго заўсёды нехта апярэджваў ды і не было каму памагчы яму апусціцца ў купальню. Хрыстос зліта-ваўся над расслабленым. Не зважаючы на свята, Ён аздаравіў нядужага, выклікаючы асуджэнне з боку рэлігійных фармалістаў.

Святкаванне суботы згодна з чацвёртым Майсеевым запаветам практыкавалася ў яўрэяў паўсюдна і безагаворачна. Яно даходзіла нават да смешнасці і абсурду. У суботу нельга было прайсці болей як 100 крокаў, нельга было перавязаць скалечаную руку, нават знесенае ў суботу яйка нельга было з'есці. У 1-й кнізе Макавейскай змешчаны іншы, вельмі паказальны прыклад. Калі 150 гадоў перад Раждзаством Хрыстовым сірыйскі цар Антыёх Эпіфан акружыў Іерусалім, многія абаронцы ўцяклі на пустыню. Жаўнеры Антыёха атакавалі яўрэяў у суботні дзень, а тыя нават не бараніліся, не хочучы парушыць святасць дня.

Хрыстос не пагаджаўся ні з якім фармалізмам. Ён вучыў, што Бог вышэй цэніць „міласэрнасць, а не ахвяру", сапраўдныя пачуцці, а не памер устаўной ахвяры. Суботу таксама шматлікія тагачасныя яўрэі ўспрымалі занадта літаральна. „Ці субота для чалавека, ці чалавек для суботы?" — з дакорам звяртаўся Ён да сучасных яму святошаў. Што выжнейшае: жыццё і здароўе ці безагаворачнае прытрымліванне закону? Хрыстос чыніў цуды не зважаючы на суботу. Ён ведаў, што, так як зямля кожны сёмы год пакідалася незааранай дзеля ўзмацнення, гэтак і чалавек павінен у сёмы дзень набрацца сілы для далейшай працы. Аздараўляючы ў суботу нядужых, Ён тым самым падкрэсліваў, што ў сёмы дзень павінна вярнуцца здароўе і сілы ў тых, хто іх страціў.

Хрысціяне пераначлі ідэю святкавання сёмага дня з той розніцай, што суботу заступіў ім першы дзень тыдня — нядзеля, на памятку Уваскрэсення Хрыстовага і Сашэсця Святога Духа. Хрысціяне захоўвалі святасць нядзелі, пачынаючы з апостальскіх часоў. На Захадзе, напрыклад, Сінод у іспанскім горадзе Элівіры адлучыў ад Царквы тых вернікаў, якія без важнай прычыны тры нядзелі падрад адсутнічалі ў нядзельных багаслужбах. Сінод у Макон у Францыі (у 585 г.) забараняў у нядзелі разглядаць судовыя справы, запрагаць валоў і караць слугаў. У VII стагоддзі ў Англіі забаранялася ў нядзелю падарожнічаць конна, караблём або возам. Нават каралева ў гэты дзень не ўжывала экіпажа.

Безумоўна, не зважаючы на ўсемагчымыя перахілы на працягу гісторыі, Царква імкнулася падкрэсліваць павагу і значэнне нядзелі. Сучасныя хрысціянскія канфесіі не патрабуюць ад вернікаў безапеляцыйнага і сурованага захоўвання нядзелі. Тым не меней нязменна тлумачаць ейны сапраўдны сэнс. „Свята, — пісаў св. Феафан Затворнік, — гэта не бяздзейнасць, але святкаванне, інакш кажучы, радасны ўздым духа ад усведамлення вялікіх Божых ласак". Упэўненасць у Божай апецы на працягу тыдня павінна ўзбудзіць пачуцці шчырай удзячнасці. Нядзеля павінна стаць днём прымірэння з Богам, аднаўлення парваных сувязей з Ім. Сярод штодзённых клопатаў і мітусні чалавек паддаецца агульнай атмасферы асяроддзя. Уключаецца ў грызню і інтрыгі, у грубіянства і жорсткае саперніцтва. Яму патрэбен не толькі адпачынак, але і падлік сумлення, аналіз памылак і падзенняў. Менавіта таму ўдзельніцтва ў нядзельнай багаслужбе Царква ўспрымае не толькі як рэлігійны абавязак, але і як аб'ектыўнае дабрадзейства.

Дзяржавы, якія згодна са сваёй ідэалогіяй спрафанавалі нядзелю і іншыя святы, не дасягнулі дабрабыту. Ад працы ў нядзелю яшчэ ніхто не пабагацеў, бо не блаславлёная Богам праца не дае плёну. Разумнейшага закону, з эканамічнага, фізіялагічнага і псіхалагічнага пунктаў гледжання, яшчэ ніхто дагэтуль не прыдумаў. Таму па сённяшні дзень не страціў сваё актуальнасці універсальны запавет: „Шэсць дзён працуй, а сёмы дзень — Госпаду Богу Твайму".

**а. Канстанцін Бандарук**

# Спачуванне вам, пабрацімы

Я не буду шукаць гістарычных фактаў, якія даказвалі б чытачам „Нівы" каталіцкую прафанацыю Бога і Ягонага Сына Ісуса Хрыста. Гэта вельмі сур'ёзна і пераканаўча робіць наш пісьменнік-гісторык Мікола Гайдук. Я хачу выказаць сваю думку наконт гэтай як жа важнай у наш час праблемы.

Дзе б ні глянуць, каталіцкія ксяндзы блытаюць веру ў Жывога Бога з палітыкай. Я ўжо прамаўчу такое вучонае паняцце як празелітызм, хаця гэты працэс буйна развіваецца ў Беларусі, Украіне, Расеі і г.д. у наш час. Але нельга прамаўчаць нахабную дзейнасць такіх ксяндзоў як, хаця б, З. Пашкоўскі, які па тэлебачанні ўсім выбачае нават за Катынь і ва ўсіх просіць прабачэння і за свае „магчымыя памылкі" і г.д. Паслухае чалавек і падумае: „чаго некаторыя „бязбожнікі" хочуць ад гэтага багабойнага каталіцкага кліру?"

А я ведаю, бо чытаў і перакладаў на польскую мову для аднаго з тыднёвікаў, як ксёндз З. Пашкоўскі, заехаўшы ў Старабельск, выгнаў з тамашняга манастыра праваслаўных манахаў і павёў свой каталіцкі абрад. Убачылі гэта праваслаўныя жыхары горада і, супольна з тутэйшымі манахамі, нейк вытурылі з манастыра няпрошанага госця са світай. Паступілі з ім і з ягонымі нахабнікамі вельмі культурна, на хрысціянскі і еўрапейскі манер, і сказалі, што ён можа гэта рабіць на гарадской плошчы, дзе яго паслухаюць усе, а не толькі праваслаўныя манахі, якіх зрэшты ён сам не хацеў бачыць і прагнаў. А прагнаў таму, бо думаў, што яму ўдасца занясць праваслаўны манастыр, а пасля ўсімі сіламі і сродкамі „пераканаць" праваслаўных і Рым, што калісьці ён быў каталіцкі — уніяцкі, і так астанецца. Але, пакуль што, манастыр у Старабельску астаецца ва ўладанні тых, хто яго пабудаваў і ў ім моліцца.

Не так ужо і многа адрозніваецца ад агульнай канцэпцыі абражання Бога каталіцкімі іерархамі выхадка ксяндза-палкоўніка Янкоўскага з Гданьска напярэдадні Вялікадня 1995 года. Ён, замест над гробам, з якога Хрыстос уваскрос, маліцца за дабро, спакой, мір і згоду паміж людзьмі, убраў гэтае святое месца ў эмблемы, якіх сам не любіць. Побач свастыкі і сярпа з молатам паклаў ініцыялы партыі ПСЛ, УВ і УП каб даказаць палякам, хто імі правіць. Маўляў, не паддавайцеся ўраду жыда-камуны, які толькі і думае пра зніштажэнне каталіцызму ў Польшчы.

Шкада мне католікаў, якія вераць у Бога без ніякае палітыкі, без хітрасці ды матэрыяльных карысцяў, маючы такіх „правадыроў" як Янкоўскі і ягоныя свецкія памагатыя. Ім, думаю, вельмі цяжка і балюча глядзець, як іхнія пастыры ганьбяць Бога для сваіх грэшных мэтаў. А яшчэ цяжэй сэрца крывавіць і таму, што пакуль Бог аб'явіць Страшны Суд і разбярэцца, хто кім быў ды пакарае або ўзнагародзіць, яны тым часам разжывуцца і знойдуцца ў „светлай памяці" свайго каталіцкага Касцёла.

**Васіль Петручук**

# Што пасеюць паломнікі?

З'ездзілі беластоцкія вернікі ў Рым пасвянціць кароны для цудоўнага абраза Маткі Боскай Вастрабрамскай, што ў беластоцкім Фарным касцёле. Дэлегатаў-паломнікаў прыняў сам папа Ян Павел II. Быў пры гэтым і журналіст беластоцкага радыё, які даў вернікам магчымасць выказаць на хвалях эфіру свае ўражанні: усе былі вельмі шчаслівыя, у тым ліку і беластоцкі арцыбіскуп Станіслаў Шымэцкі. Пачуліся з радыёпрыёмніка і словы самога папы: выказаў ён жаданне, каб прысутныя ў яго, калі вернуцца ў Беласток, перадалі прывітанні праваслаўным. Прыгожая экуменічная задума. З надзеяй у сэрцы чакаць толькі яе ажыццяўлення. Крыху ведаючы нашы беластоцкія рэаліі, спадзявацца трэба на гэтае прывітанне яшчэ большай энергіі нашых пабожных айчулькаў і засядацеляў першых радкоў касцельных лаваў у экуменічных намаганнях каб размысць або і выпаласкаць зусім права праваслаўных „братоў у Хрысце" на Супрасльскі манастыр ці іншых адменцаў на яшчэ-штось. Бо дзе-хто мо і думае пра нейкі мір і згоду паміж людзьмі, дык гэта ж на шырокім свеце, але навошта адразу такі балаган у Беластоку?!

**(ав)**

# РАДЗІМА — РОДЗІНА

**Частка IX**

Цытую далейшыя часткі выказванняў маёй Маці аб Радзіме:

„Ты знаеш, што калі я яшчэ была дзяўчуком, ну і пасле, калі ўжэ была дзеўкаю, то вельмі часто вясною хадзіла ў Белавежскую пушчу садзіць пасадку. Сосны мы садзілі. Плацілі слабо, але заўшэ то трохі зарабілася̈. У мяне поспех у руках то быў вялікі. Колькі тых дзеравок я пасадзіла, то я ні знаю, але думаю што много тысяч. То напэўно ўжэ з гэтых дзеравок малюсенькіх вырас вялізны лес. Гэта я іх садзіла лет семдзесят, а можэ і больш чым семдзесят таму назад. Ну, ты мяне ўсё пытаеш пра родзіну. То мне здаецца так, што гэты лес, што я пасадзіла сваімі рукамі, то гэто ж таксама мая родзіна. І я вельмі часто ў сваім жыці думала пра тые мае дзерэўца. Як яны растут, чы яны ужэ вялікі, чы які жулік ні зрабіў ім крыўды. Але яно ведомо, што дзерэво ў жандовым лесі то як бы нічые, а другое дзело то збожэ пасеянэ на сваім полі або пасаджана сваімі рукамі бульба, або у гародзе гуркі, капуста, мак, морква і Бог знае што яшчэ там. Бывало пасееш гэто ўсё або пасадзіш і ўжэ на другі чы трэці дзень ні выдзержыш і ідзеш, каб паглядзець чы ўжэ ўсё пасходзіло, хоць і знаеш, што за дзень чы за два нічого яшчэ зысці ні могло. А чом гэто так робіш? А робіш так таму, што ўсё гэто любіш. І зямлю сваю любіш, і насенне любіш, а калі ўжэ забачыш, што з зямлі пачынае ўсё вылазіць і зеленець на загоні, то просто ачэй адарваці ні можэш, так яно добрэ чалавекаві на сэрцы робіцца. А і послі то сотні разоў ідзеш у поле, каб паглядзеці як яно расце, як выплываюць каласы, як спеют. Мы ж усе тут мужыкі і ўсё, што мужыцке, то нас радуе. Я то там ні знаю як гэто ўсё называецца па-вучонаму, але мне здаецца, што гэто ўсё то таксамо родзіна.

Ой, цяжко нам калісь жылосё. Ты толькі падумай: дзесяць гэктароў зямлі. А зямля параскідана і па Бандарскім, і па Багнюцкім, і ў Смольні, да каторае было аж тры версты, і лонка пад Сушчаю аж штыры версты. І ўсюды трэба было зайсці і зрабіці ўсё з матычкаю, з серпіком, з граблямі. А да гэтаго ўсяго пяцёра дзяцей малых, як бобу. Я ж нажынала сярпом коп трыццаць жыта, коп пяць або сем пшаніцы, коп дваццаць аўса, а яшчэ і ячмень, і грэчка, і просо, і гарох. То ж калісь людзі дурныя былі, ніхто касою ні касіў, усе серпамі жалі. Косамі то толькі траву касілі, а збожжа то не.

Бывало, так напрацуешсе, што свету божаго ні бачыш. Прыдзеш дахаты, хучэй вары страву для дзяцей і жывіну дой, і свіне кармі, і бельё мый, і пасуду мый, і адзежу латай. Ну, але ж жылі ўсе так кругом. Ніхто па-другому ні жыў. Сіхібо які лодыр, бо і такіе былі па вёсках, але было іх мало. Усе працавалі як валы. Здаваласё б, што ні было часу аб гэтуй родзіне думаці. Ну трэбо сказаці, што я ні помню, каб мы так пры свяці або пры гасціні гаварылі, што мы любім нашу родзіну. Ніхто так ніколі ні гаварыў. От і я вам, дзецям сваім, таксамао ніколі ні гаварыла, што вы павінны любіці свой край. Не, ні было ў нас такое моды. От і ў цэркві такого бацюшка ніколі ні гаварыў. Праўда, калісь то у цэркві малілісе за цара бацюшку і гаварылі ў пропаведзях, што усе праваслаўны рускі, і што трэбо маліцца за Расею. Але я ніколі ні чула, каб хоць раз у цэркві гаварылі нам пра Беларусь. От, за тых савэтаў то завялі ў Рыбаках беларуску школу і ў Луцэ таксамо. Ну то там вас вучылі па-беларуску. Кніжкі вам далі беларускі. То як ты прыходзіў і чытаў панашаму або вершы беларускі з памяці гаварыў, то мяне як бы штось за горло сціскало, бо я ж ніколі і ні думала, што беларускі язык то будзе ўжывацца дзесь па-за нашымі хатамі.

Ну то значыцца, мы тут па хатах ні гаварылі, што любім родзіну. Але ж усё ж такі яе любілі па-своему і вельмі часто гаварылі, што наша старана вельмі хароша, бо тут і поле, і выган, і рэчка, і лес.

Ну бывало такое, пойдзеш на рынак у Нізбодку, а гэто ж пятнаццаць вёрст. Зойдзеш, а там поўно нашаго народу, ну і жыдоў поўно. Нібы то і ні так далеко ад Бандароў, але ўсё ж такі ужэ ні родна старана. А калі ўжэ ідзеш назад і ідзесь так ужэ кала Улянкі ўбачыш крыжы з юшкаўскае царквы, ну, думаеш, ужэ гэто наша родзіна. Падыдзеш бліжэй і ўжэ бачыш купалы, а далей і прысады, а ў канцы і ўсю цэркву бачыш. Тады ты ўжэ знаеш, што ўжэ ў сябе на родзіні і як бы ў сябе ў хаці. Хоць з Юшкавага Груда да Бандароў яшчэ штэры вярсты. Але тут то ужэ ідзеш як падмецены. Хоць і змучаны, але на сэрцы то ўжэ лёгко, бо ідзеш па роднай старане.

Ну то сам бачыш, што гаварыці аб тым што мы любім родну зямлю, то мы ніколі ні гаварылі. Але ж аб гэтым то чалавек думаў і вельмі мало было ў нас такіх ветрагонаў, што валачыліся па свеці. А бывало такое, што да нас хтось прываloксе, от хоць бы той румынец, катораго ты помніш, то ўсе яго тут ні шанавалі і называлі валакітаю.

То ж месцо на зямлі чалавекаві дае Бог і веру ему дае, і язык дае, і розум. То ведомо, што там дзе ты нарадзіўсе, то тое і любіці павінен. От, цяпер па вайне то маладые раз'ехалісе па ўсёй Польшчы. Я то думала так, што ў канцы канцоў то з гэтаго нічого добраго ні будзе. Ну можэ то ім там дзесь у Польшчы і добрэ жывецца, але ж гэто ні родна старана. Там яны родзіну забудут".

**Алесь Барскі**

# Як Марыё боты шыў у вёсцы

У 1884 годзе ў Меляшках, што пад Гарадком, дзейнічала школа граматы. Звыш сто гадоў пасля ў вялікай вёсцы ёсць толькі тры вучні, якія на навукі возіць аўтобус у гарадоцкую местачкова-гмінную школу-велікана, а меляшкоўская школа пустуе...

Не, ніколі не пуставала, і сёння таксама так пра яе не скажаш, але нікога з людзей у ёй няма. І ніхто да яе не заходзіць. Але народ чакае „калі пацяплее", калі іхняя школа зноў будзе поўная гоману. Іхняя школа — яны ж яе будавалі, сваімі рукамі.

— Ой, даўно ж гэта было, а як сёння памятаю, як я з каляжанкаю Нінкай першымі беглі на грамадскі пачын, каб тую школу будаваць, — з усмешкай успамінае Ніна Пятэльская.

Весела было тады ў Меляшках, усе рады былі, што ў нас сапраўдная, сучасная школа будзе, бо раней мелі „хатнюю". Вой, то былі часы! Якія мы балі спраўлялі! На інаўгурацыю дзейнасці прыехала з трыццаць гасцей! Наш народ тады быў вельмі сыграны, і кіраўнічка школы, кабета прылюдная, Зіна Кахановіч, шмат што ўчыніла, каб нас з'яднаць — арганізавала нас, жанчын меляшкоўскіх, і рабілі мы разам спектаклі... А нашу школу зачынілі, як пачалі па вёсках ліквідаваць школы. Колькі ж мы ездзілі, пратэставалі, забаранялі, і да партыі, і ўсюды, каб нам школу пакінулі. Тады ў нас дзяцей досыць было. І нічога не дайшлі. Нават не хацелі ведаць, ці мы хочам узяць у той школе хоць адзін пакой на дзейнасць нашага гуртка, ці можа дазволім нешта зрабіць там гміне. Не пыталі, аддалі ў арэнду „Цэфарму", на склад. У нашай школе вата ляжала, а нам да гэтага які мог быць інтарэс? Не ведаем, як там у сапраўднасці было, але мы прама не мелі права нават перакрочыць брамку да будынка, які паставілі ўласнымі рукамі.

Ну а вось у мінулым годзе справай заняўся італьянец. Боты шыць класная пачаў народ склікаць. Ну і шылі, чула, што файныя. Самой не давялося пабачыць, але думала зайсці паглядзець. Меў пачаць ад 1 сакавіка, як пацяплее, але вось холадна было. Людзі паразыходзіліся, кожны заняўся чым мог, есці ж трэба. Во, толькі з гарадоцкага прадпрыемства „Каро" маем 250 беспрацоўных, а колькі надзеі людзям было з гэтай фабрычкай. Ну, я не ведаю, больш скажуць Юрка Ярмолік ці Генік Шусцік ці Ромак Несцярчук з калёніі, яны працавалі...

Ужо была палова сакавіка, як я ў Меляшках пачала шукаць слядоў тае славутае фабрыкі абутку. Амаль усе хаты, па якіх відаць, што хтосьці жыве, паадчыняны, але знайсці кагосці, што ведае дэталёва пра справу, практычна немагчыма. Не яны ж працавалі там, пенсіянеры. А калі хто там рабіў, не можа чакаць вечнасць, калі італьянец зноў прыедзе. Адна дзяўчына, што працавала пры кройцы ботаў, спалоханая чамусьці, з-пад печы, у расцягнутым швэдрыку махае рукамі: „Я нічога-нічога не ведаю, пытайце іншых! Ідзіце да Геніка, ён там стражнікам ёсць!"

Вядома, Геніка Шусціка дома няма, але, матуля яго, Марыя з бацькам, які аж супыняў яе („Ты ж не ведаеш, як у сапраўднасці там ёсць!"), ахвотна сказала пару слоў. У „школу" заглянуць мы не маглі, а звонку яна цяпер выглядае, як сцішаны ў час велікодных канікул будынак сярэдняй велічыні школы, чакаючы вучняў.

— Колькі гадоў нічога тут не было, — расказвае спадарыня Марыя, — то паабвальвалася ўсё. Пабялілі файна, сценкі некаторыя выкінулі...

— Ты што, бачыла, што выкідалі? Ты ж, як і ўсе тут, уступу туды не мела, — смяецца муж.

— Ведаю, што адну выкінулі напэўна, бо школа ж збудавана *водлуг* клясаў, а трэба было ўставіць машыны, і то не такія, як швейная машынка, але вось нават такія, як да гэтай сцяны. А і святліца ў школе вялікая была. Ой, наша школа вялікая была, і калідоры аграмадныя ў ёй, і вось заставілі там усё машынамі. Шмат працы рыхталася народу. Зразу больш нашых хлопцаў пайшло, але пасля толькі чатырох мелі занятак. Некалькі дзяўчат з Гарадка, то дзяўчына з Пянькоў, то з Беластока рабілі. Планаваў так уласнік, каб з трыццаць асоб пакуль працавала. Сабралі ўсіх. Ну і што потым іх пагнала? Холад. Немагчыма было там ужо рабіць. Прыкрылі на зіму; казаў ён цераз перакладчыцу на сходзе, што калі пацяплее, фабрыка зноў рушыць. Наш Генік зразу вырэзваў боты па формах, на такой во вялікай машыне. А зімой пільнаваў. А колькі зарабляў? А скажуць яны, колькі зарабляюць! Абяцаў Марыё, што заробкі добрыя будуць, што работа будзе, і ў першую чаргу возьме тых, каго адправіў у „зімовы" водпуск, і будуць яшчэ дабіраць. Шмат людзей прыйшло б з „Каро". Людзей то ёсць, каб толькі распачаў. Чаму зімой не працаваў? Бо задорага яго каштавала ацяпленне, бо на нафту такія печкі ўставіў, імі цяпло гнаў, а яго ж шмат трэба на такі будынак. У доме, дзе настаўнікі жылі, казаў, што будзе бюро ў адным пакоі, а можа і трэба будзе зрабіць месца для тых на начлег, што даязджаць будуць. Ваду працягнуў, тэлефон. Думаю, што калі б не планаваў сур'ёзна, гэтага не рабіў бы, праўда?..

Казаў, што калі будзе цяпло. Вось пацяплела, а нічога не відна. Чалавеку, вядома, на грашу залежыць. Такая праца, не скажаш, што брудная, не тое, што ў полі. Кожны мае сваю машыну, сваю дзялянку, і толькі тое робіць — хто рэжа, хто шые, хто падклейвае падэшвы...

Мой Генік усяго гэтага ўсю восень пільнаваў. Паехаў быў Марыё за матэрыяламі, былі пакінулі, прыехаў, зноў парабілі. Генік кінуў старажаваць, кажа, чаго тут пільнаваць за марны грош! Пакоі тыя пазачыняны, ніхто не заходзіць. То яна, тая супрацоўніца Марыё загляне, то ён сам прыедзе. Каб то дзе ў полі ці ў горадзе ўсё гэта стаяла, а каму тут патрэбны тыя машыны!.. Ці хтось з горада вярнууўся, каб тут працаваць? Не. З Беластока пяць дзяўчат штодзень прыязджалі *таксоўкай*, яны і раней у Марыё працавалі, відна, добра ім было. З Гарадка сядуць і на ровары прыедуць. У Гарадку нарабіў людзям Марыё надзеі, сазваў народ, наабяцаў, што як будзе многа людзей, будзе арганізаваны давоз на працу, і пойдзе работа на дзве змены. А я думаю, што калі ён будзе мець добры збыт, то возьмецца ён добра за справу. Цяпер не тое, што калісці — нашыюць усялякага абутку, не глядзець, ці хто гэта купіць. Марыё стараецца, разбіраецца і ў гандлі. Малады чалавек, сарака яму хіба і не будзе...

Як знайшоў нашае месца? У Беластоку калісь меў фабрыку. Па-просту, упадабалася яму тут, і школа вялікая, і Гарадок недалёка. Пэўна, падумаў, што тут можа развівацца. А нам тут... Нас тут да работы сваіх практычна няма. Усе пенсіянеры, усе старыя. Во хатаў столькі пустуе.

— Можа, рабочыя фабрыкі купілі б тыя хаты?

— Купіць то пэўна не, але за пару злотаў маглі б наняць. Да некаторых хат нават ніхто і не прыязджае, а старыя паўміралі. А чаго сюды ехаць, каб ано сядзець і глядзець, як руйнуецца?..

— Адзіная надзея, што будзе праца, — кажа Шусцік. — Бо калі б не планаваў Марыё, што будзе рух, то ўжо раскінуў бы яе, тую фабрыку. А так усе чакаем, калі пацяплее...

**Міра Лукша**

# Парк дзікіх звяроў

Задумаў я разам з сябрам паехаць у Кадзідлова, мясцовасць з некалькіх хутароў між Руцяным-Нідай і Мікалайкамі, пра якую чытаў у друку і крыху гутарыў з сябрамі. Цяжка яе знайсці, загубленую між возерамі і лясамі. Спатыкаем працаўніка Мазурскага ландшафтнага парку і пытаем, што думае пра існуючы ад двух гадоў парк дзікіх звяроў у Кадзідлове. Каб трымаць звяроў, адказаў ён, трэба ім памагаць, а каб мець на гэта час, трэба адрачыся ад шмат чаго. Падыходзіць да нас чорны бусел, якога бацькі загінулі на трансфарматары; гаспадар частуе яго рыбкамі, якія бусел носіць у сажалку, укідае і, толькі вылавіўшы з вады, з'ядае іх. Ідзем далей і, блукаючы, прыходзім да агароджы з сеткі, за якой бачым вялікага ласея. Спатыкаем дзяўчыну, якая вядзе воўкасабаку — мешанца сабакі і сібірскага воўка. Над'язджае фурманка, з якой сходзіць пастаўны мужчына. Гэта доктар Анджэй Кшывіньскі, біёлаг, які некалькі гадоў таму перанёсся сюды з Карканошаў. Бясплатна арандуе ўчастак лесу, у якім гадуе ласёў. Уваходзім за сетку і ідзем да доміка гаспадара. Чую, што за намі нешта прабіраецца праз голле: гэта маладыя ласі. Даведваемся, што прывезены яны з Бебжанскага нацыянальнага парку, дзе жылі сярод людзей пасля таго, як браканьер забіў іх маці. Пазней яны вернуцца на Бебжу, калі там збудуюць ім такую агароджу, як тут. Ёсць таксама і казулі. Пан Анджэй вядзе нас да прыбудоўкі, у якой трымае глушцоў. Паказвае нам агароджу: сетку закапаную на глыбіні аднаго метра. Так глыбока трэба было забяспечыць гэтыя птушкі ад падкопаў драпежнікаў. Адметнай рысай глушца з'яўляюцца вялікія кіпцюры для выграбання корму. Пан Анджэй атрымаў глушцоў з Нямеччыны і ў сябе прабуе іх увесці ў тутэйшае прыроднае асяроддзе. У натуральных умовах глушцы ў Польшчы жывуць толькі на Люблінішчыне і ў Аўгустоўскай пушчы; гэта гінучы гатунак. Пра Кадзідлова ўспамінаецца ў Міжнароднай чырвонай кнізе, у якую занесены выміраючыя віды звярыны. Апрача глушцоў пан Аджэй гадуе таксама коней Пржавальскага. Ёсць яшчэ алені, а нават даўнейшыя віды дамашняй жывёлы, між іншым чырвоная карова. З інкубатара неўзабаве выйдуць жураўляняты, якіх трэба будзе навучыць лятаць. Анджэю Кшывіньскаму памагаюць, асабліва пры зборы корму: жалудоў і каштаноў, вучні са школы ў Вайнове, якім ён у доказ удзячнасці выдаў ганаровыя білеты працаўнікоў свайго парку.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Зязюля — нядобрая птушка

Шмат хто носіць вясной грошы, „каб было на зязюлю". Калі яна закукуе, а ў чалавека ў кішэні ёсць грошы, тады ў яго яны будуць увесь год. А калі няма ў цябе ў той час ні грошыка — так будзеш мець цалюткі год. А некаторыя пытаюцца ў зязюлі, колькі гадоў жыцця мець будуць. А дзяўчаты — праз колькі гадоў замуж іх возьмуць...

Ну, сённяшняя моладзь у такія „забабоны" ўжо не верыць.

Зязюля, кажуць, калі прыляціць у сад пры чыёйсці сядзібе, напэўна кагосьці з гэтага дому „выкуе", значыць, ён хутка памрэ. Пра зязюль спяваюць: *Ты, зазуленька, нядобрая птушка, ты выкавала маю матулю і я сіроткаю стала...* Мая матуля, калі зязюля прылятала ў наш сад, казала: *Няхай смерць прыйдзе да звярыны, чым мае прыйсці да радзіны.*

Зязюля „паказала", у якім месцы ў Семяноўцы будзе могільнік. Мая матуля тады была яшчэ дзіцём. Вярталася са сваёй маці і адной жанчынай з Нараўкі з багаслужбы ў Вялікі чацвер. Царква ў Семяноўцы стаяла ўжо пару сот гадоў, але цяпер свайго бацюшкі не мела. Служба вялася толькі на трэці дзень Каляд і Вялікадня, а таксама ў пост перад гэтымі святамі. Нараўчанскі бацюшка прыязджаў спавядаць жыхароў Семяноўкі, хутароў і навакольных вёсак.

Калі мінулі ляснянскі лес, пачулі, што ў семяноўскім лесе вельмі гучна кукае зязюля.

— Так кавала, што аж страшна рабілася на душы, — успамінала бабуля. А жанчына з Нараўкі тады сказала: „Памятайце, людзі, як куе зязюля, так тут моцна будуць людзі плакаць".

Усе думалі, што зноў пачнецца вайна, расстрэлы. А праз пару гадоў у тым месцы заснавалі могільнік, які існуе да сёння.

Мне асабіста зязюля не падабаецца за сваю бестурботнасць у адносінах да сваіх дзяцей. Малыя таксама не лепшыя — вылупіўшыся з яйка ў чужым гняздзе, выкідаюць з яго птушанят гаспадароў. Але такая ўжо зязюліна натура.

**Аўрора**

# ЖАБЫ НА АСФАЛЬЦЕ

У першы дзень каталіцкага Вялікадня я і Барыс Руско выбраліся на першую ў гэтым годзе прагулку веласіпедамі шашой, што вядзе з Белавежы ў вёску Пагарэльцы. Краявід на гэтым шляху надта прыгожы. Увесь час на правым баку цягнуцца някошаныя лугі ў даліне ракі Нараўкі, а за імі — сцяна Белавежскага нацыянальнага парку. Налева шаша абапіраецца аб гаспадарчую частку Белавежскай пушчы.

Прырода толькі што пачала будзіцца з зімовага сну. Дзе-нідзе ў вочы кідаліся першыя веснавыя кветкі, а на дрэвах вісела зялёненькая імглістая пялёнка. Усё ж у той дзень не яны найбольш прыцягнулі нашу ўвагу. Ужо напачатку прагулкі мы прыкмецілі на асфальце шматлікую колькасць жаб. Паколькі па шашы пастаянна ездзяць аўтамабілі, шмат жаб проста гіне пад іх коламі. Мы на адрэзку ў некалькі кіламетраў налічылі пару дзесяткаў забітых штук. Барыс усхваляваўся гэтым і пачаў памагаць жабам, скідваючы іх рукамі з шашы на той бок, у які яны кіраваліся. Здавалася б, шаша пасля гэтага павінна была стаць пустой, але калі мы вярталіся дадому, выявілася, што на дарозе паявіліся наступныя жабы, прычым было іх зусім не менш, чым раней. Майму сябру прыйшлося паўтарыць працу. Вядома, Сізіфаву, бо ж услед за намі на шашу выходзілі чарговыя жабы.

Чаму я наогул пра гэтае здарэнне ўспамінаю? А то па той прычыне, што хачу давесці ўсім да свядомасці, як наша цывілізацыя можа дрэнна ўплываць на акружаючую нас прыроду, частка якой з'яўляемся і мы самі. Шаша — гэта месца смерці не толькі жабам, але і шматлікім іншым відам жывёл, якія на ёй апынуцца. Вучоныя-эколагі б'юць трывогу. У польскай экалагічнай літаратуры штораз часцей можна натрапіць на працы, у якіх падаюцца вынікі падрабязных доследаў над гэтай праблемай. У некаторых краінах свету паабапал дарог будуюць спецыяльныя забеспячэнні, якія не могуць пераадолець паўзуны, гады, а нават меншыя млекакормячыя. А ў нас? Не хочацца нават і ўспамінаць! Я не ведаю, ці калі б я каму запрапанаваў такую развязку на тэрыторыі Белавежскай пушчы, той хтосьці не пастукаў бы ў лоб? А яшчэ дабавіў бы: — На рамонт дарог нам не хапае, а яму ў галаве нейкія дурноты!

Магчыма, што так і ёсць, толькі няма чаго потым здзіўляцца, што з году ў год памяншаецца колькасць буслоў, празмерна размнажаюцца шкодныя для гаспадаркі насякомыя і г.д. Жабы — важнае звяно ў прыродзе. А колькі мы такіх звенняў ужо зусім вынішчылі з-за сваёй непрадуманасці і абыякавага стаўлення да прыроды? Варта над гэтым задумацца! А ўжо зусім было б добра, каб за думкай пайшлі і нейкія, хаця б і найдрабнейшыя, учынкі.

**Пётр Байко**




## Прымарожаная бульба
**(спосаб варэння)**

Прымарожаную бульбу перад гатаваннем трэба пакласці ў халодную ваду на 4—6 гадзін. Затым паставіць у халоднай вадзе і пасля зварэння адцадзіць, наліць другую, гарачую ваду і варыць да мяккасці. Калі бульба зварыцца, пакінуць на нескалькі хвілін без накрыцця. Бульба, звараная такім спосабам, траціць салодкі смак.

## Вітаміны

Усе прадукты харчавання маюць у сваім складзе вітаміны. Адны прадукты маюць іх больш і разнастайныя. Іншыя — менш і аднаго складу. Таму кожная гаспадыня павінна клапаціцца і дбаць аб тым, каб ежа не была аднастайнай.

**Вітамін А.** Выступае ў большай колькасці ў жывёльных тлушчах, у пячонцы, жаўтках, масле, сыры і малацэ, а таксама ў моркве, памідорах, шпінаце, кукурузе, зялёным гарошку і іншых раслінах. Вітамін А найбольш патрэбны для дзяцей, бо недахоп яго тармозіць рост дзіцяці. Недахоп вітаміну А ў дарослых можа выклікаць т.зв. „курыную слепату".

**Вітамін $B_1$.** Утрымліваюць яго дрожджы, пячонка, ныркі, свіное мяса, гарох, арэхі і жытні хлеб.

**Вітамін $B_2$.** Знаходзіцца ў дражджах, нырках і пячонцы, а таксама ў сыры і малацэ, сыроватцы, яйках і ў меншай ступені — у свініне, ялавічыне, гарошку і ў жытнім хлебе. Недахоп гэтага вітаміну ў арганізме чалавека можа стаць прычынай узнікнення т.зв. „заядаў" у кутках вуснаў.

**Вітамін С.** Вельмі важны для людскога арганізму. Маюць яго ў сваім складзе амаль усе зялёныя фрукты і гародніна. Сярод імпартных фруктаў вітамін С у найбольшай ступені ўтрымліваюць лімоны і апельсіны. Багатыя вітамінам С трускалкі, ягады і яблыкі.

Трэба памятаць, што зімою фрукты маюць менш вітамінаў і трацяць іх таксама пры неадпаведным гатаванні (гародніну — ва ўсіх выпадках — варыць трэба пад накрыўкай і класці не ў халодную ваду, а ў вар).

**Вітамін D.** Неабходны арганізму для засвойвання калію і фосфару, уплывае на будову зубоў і касцей. Знаходзіцца ў рыбным тлушчы, жаўтках і ў масле. Цяжарныя і кормячыя жанчыны, а таксама дзеці, патрабуюць вітаміну D значна больш.

**Вітамін К.** Пактрэбны для правільнага мацавання крыві. Знаходзіцца ў моркве, капусце, шпінаце, гарошку, бульбе.

З гэтай інфармацыі відаць, што для забеспячэння арганізма ва ўсе вітаміны, трэба гатаваць разнастайную ежу.




Мілы Астроне! Такі сумны сон мне сёння прысніўся. Быццам я знаходжуся за граніцай, дзе я калісь была ў знаёмых. У невялікай зале цэлы натоўп людзей. Я бачу там шмат знаёмых. Не адчуваю сябе там надта добра. У пэўны момант бачу, што ўсе мае знаёмыя ўжо пайшлі, засталіся толькі чужыя людзі. Я адчуваю сябе вельмі адзінокай.

Пасля пачынаю заўважаць знаёмых жанчын з Беластока, якія таксама быццам прыехалі туды. Аднак, цікавая з'ява: усе яны старыя і брыдкія, зусім не такія, як у жыцці.

Раптам бачу ў зале свайго бацьку. Ён высокі, статны, у элегантным касцюме. Але ён, як і я, вельмі самотны і нейкі нешчаслівы. Мы ходзім з ім з адной залы ў другую, але нідзе няма нам прыстанішча. Усё ізноў нам чужое, нейкае шэрае, халоднае.

І вось я ўжо на нейкай дарозе. Вуліца — як на вёсцы, забітай дошкамі. Няма ні асфальту, ні нават бруку — проста пясок. Паабапал вуліцы растуць адзіночныя дрэвы.

Проста на вуліцы, збоку, каля плота, мой бацька паставіў столік-лаву, а каля яго невысокае крэсла. Сядзіць і нешта есць. На стале разложаны нейкія харчы.

І ад бацькі, і ад усяго наваколля вее вялікім смуткам. Што будзе, Астроне?

**Вера**

Вера! Думаю, што будзе смутак. Звязаны ён будзе, бадай, з заграніцай. Што будуць клопаты, пераконвае мяне твой бацька. Бацька — і так прадвяшчае затрудненні, цяжкасці ў справах, а твой жа бацька да ўсяго быў такі нешчаслівы і самотны. Ды і ты таксама.

**АСТРОН**




## Кар'еры

Сакоўскі Васіль
Нам праўду адкрыў
У сваёй публікацыі,
Дзе праўда і рацыя.
У сваіх „Кар'ерах" —
Паказаў умела,
Што калі мы бедныя —
Тады менш урэдныя.
Умеем любіць,
Нікога не біць
Не толькі фізічна
Але і псіхічна.
Раздзелімся апошнім
Багацтвам сваім розным,
У бядзе паможам —
Рук не разложым.
Бяда людзей гартуе —
Чалавек на чалавека не злуе.
Было спачуванне, спакой —
Не ішлі мы ў разбой.
І сёння разбой нам чужы;
Друг мой — сябруй і дружы
З чалавекам кожным!
І не будзь злосным.
Губіць кар'ера —
Марнее вера.
Замнога багацтва
Вядзе ў лайдацтва.
Сакоўскага „Кар'еры"
Адчыняюць нам дзверы
У гісторыю продкаў,
Што жылі без сродкаў.
Праз поспехі, кар'еры
Зачыняем дабру дзверы.
Ахапіў нас наглуха
Маразм, як удар абуха.
Што маем рабіць?
Трэба сумленна жыць!
Зло адагнаць назаўсёды,
Імкнуцца да міру, да згоды.

**Мікалай Панфілюк**

## Ядловец лечыць і... страшыць

Ягады ядлоўцу маюць лячэбную моц, калі іх адпаведна падрыхтаваць. Ядловец — дзіўны куст. У прыцемках здаецца постаццю чалавека. Людзі, калі нават добра ведаюць месца, дзе расце ядловец, ноччу неяк аб гэтым забываюць і часта лякаюцца.

Вось што здарылася дзесяць гадоў таму. Тая жанчына, што злякалася куста, памерла тры гады таму.

Мой дом у Семяноўцы знаходзіцца сто метраў ад могілак, за імі — невялікі лес. Якраз каля нашага плота разыходзяцца дзве палявыя дарогі — адна ідзе да могілак і далей у лес, а другая каля лугу і суседавага поля, каля некалькіх хвоек і невялікага ядлоўцу, і з гэтага месца відны могілкі.

За хвойкамі стаяць тры дамы траіх братоў. У першым, найменшым доме, жыла адзінокая бабулька. У другім пражывала старое сужонства, а трэці быў пусты — яго ўласнік жыў ужо ў доме апекі. Уласнік дома пасярэдзіне быў кумам бабулькі.

Калі бабуля мінула наш плот і накіравалася на дарогу, што вядзе каля лугу і поля, убачыла, што каля хвоек нехта стаіць. Думала, што нейкі мужчына апаражняецца. Пастаяла бабуля, падумала. Чалавек не адыходзіў. Ну, хтосьці выйшаў з могільніка і хоча мне за нешта адпомсціць, хаця, здаецца, нікому я крыўды не ўчыніла — мільгалі думкі ў галаве кабеты. Упала на калені, давай маліцца. Прашаптала ўжо ўсе малітвы, якія ведала, а тое штосьці стаіць як стаяла. Адмовіцца ісці далей не было як, трэба было абавязкова трапіць да кума, папрасіць, каб на другі дзень прыйшоў дапамагчы садзіць бульбу. Бабуля рашыла: „Хай будзе што будзе, іду!" Калі дайшла да „страшнага" месца, сама з сябе смяялася. А мо праз два месяцы пасля хтосьці ноччу ссек куст, выкапаў корань і ўсё гэта ў страху пакінуў — можа і ён спужаўся таго ядлоўца?

Мая бабуля расказвала, як адзін яўрэй вадзіўся з ядлоўцам. Ішоў вечарам лясной дарогай. Падумаў, што нехта выйшаў з лесу яго біць. Узяў кій у руку і закрычаў да незнаёмага:

— Я цябе ўжо не баюся, бо нас ужо двух!

Пастаяў крыху, бачыць, што незнаёмы таксама застыў, чакае, ды на другую руку надзеў ярмолку і зноў закрычаў:

— Ты! Ты лепш ідзі сваёй дарогай! Я цябе ўжо не баюся, бо нас трох!

Так стаяў і пужаў „незнаёмага" аж да раніцы. Калі развіднела, убачыў перад сабой ядловец, плюнуў у злосці і пайшоў дадому. Дарогу ж ведаў вельмі добра і забыўся, што якраз тут расце той няшчасны куст!

**Аўрора**

## Легенды нашай зямлі

Вялікім багаццем легенд і паданняў населена Белавежская пушча. І то яшчэ якімі — усё з каранаванымі асобамі! Тут куды ні глянь — перад тваімі вачыма як не ўпаўшы ад старасці дуб Ягайлы, дык магутны прыгажун Цар-дуб, дзе ні ступі — як не гара Баторыя, то Аўгустоўскі сад (калісь абгароджанае месца, у якое асочнікі нагаdespite нялі пушчанскіх звяроў, каб каралі Стэфан Баторый або Аўгуст III Саксонскі маглі сабе ўволю пастраляць зуброў, ласёў, аленяў, дзікоў). За кожнай назвай схавалася займальнае паданне: тут Ягайла зламаў нагу, там Аўгуст II Саксонскі мацаваўся з мядзведзем і іншае.

Вось і пасяленне Вітава, якое знаходзіцца непадалёк чыгуначнай лініі Гайнаўка — Чаромха, таксама выводзіць сваё паходжанне, ні болей і ні меней, але аж ад самога вялікага князя Вітаўта (1350—1430), дваюраднага брата і паплечніка Ягайлы. Легенда кажа, што іменна тут, на сухім правым беразе рэчкі Орлі ў часе аднаго са сваіх паляванняў у Белавежы заначаваў Вітаўт і вось тое вялікакняжацкае „стойла" дало пачатак сённяшняй вёсцы.

Вядома напэўна, што гэтае сяло ўжо было тут перад 1570 годам і яго назву каралеўскія чыноўнікі лічаць то „Вітултово", то зноў „Вітово", і цяперашнія моваведы пацвярджаюць паходжанне яе ад імён Віт, Вітаўт.

**Янка Целушэцкі**

# КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** 3. сасна, 8. нячыстая сіла, 9. свавольнік, непаседа, 10. хваёвае дрэва, 11. фабрыка, 13. рака, уліваецца ў Балтыку, 15. горад на Гродзеншчыне, 16. усходнеафрыканскае племя, 20. ашчаднасць, 22. жыхарка беларускай сталіцы, 23. пасудзіна для піцця спіртных, 27. месяц, 29. невялікая аповесць, 30. афарбоўка, 31. запруда на рацэ, 32. жэрдка ў куратніку, 33. частка стрававальнага апарата ў жывёлы, 34. горад у Францыі.

**Вертыкальна:** 1. бруха, жывот, 2. тоўстае бервяно, 4. дарожка для велагонак, 5. сакавіты плод раслін, 6. зялёнае покрыва сенажацяў, 7. напр., серада, 12. высокая травяністая расліна, 14. маленькі званок, 16. маці, 17. рака ў Францыі, 18. усходні ўладар, 19. выстрачаны ўчастак лесу, 21. часовая ізаляцыя хворых, 24. лекавая расліна, 25. аздоба расліны, 26. частка далоні, 27. напр., інтэрніст, 28. чыгунны кацёл.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку з 13 н-ра:

**Гарызантальна.** Малаві, канапа, навіна, капа, Ганг, дваранства, ідал, нага, бульба, манера, янычар.

**Вертыкальна:** Марока, віна, Кана, Паданг, віяланчэль, падвал, Гавана, ідыёма, гарбар, бура, баян.

Кніжныя ўзнагароды высылаем Галене Тапалянскай з Трасцянкі і Яўгену Більневічу з Чыжоў.





"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

Выдае:

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1995 r. upływa 20 maja 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 6,50 zł (65 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,10 zł (11 000 st. zł), a kwartalnie — 14,30 złotych (143 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# ГАЗЕТНЫЯ АБ'ЯВЫ

*Мой любімы жанр сёння — аб'явы грамадзян урэкламных газетках. Як здорава адлюстраваны ў іх і мы, і наша жыццё, і нашы адносіны да яго. Вось толькі некаторыя з „шэдэўраў", забяспечаныя маімі кароткімі каментарыямі.*

**„Энергічны малады чалавек выканае ЛЮБОЕ даручэнне".**

Каб цябе чорт узяў, дзе ж ты быў раней? Даручаю табе неадкладна вывесці краіну з цяжкога крызісу!

**„Акажу секс-паслугі прывабным і не скупым дамам".**

Ушчэнт звяр'яцеў хлапчына... Ды калі дама — „не скупая", то якая табе тады справа да яе „прывабнасці"?!

**„Абучу ўсіх жадаючых дзяўчат тэарэтычна і практычна інтымным адносінам".**

Гэта трэба разумець — за грошы, ці што?.. Мілы, ды такому абучаць дзяўчат возьмецца любы з нас, — і, заўваж, абсалютна бясплатна!

**„Сексуальна адароны мужчына 26 гадоў, вялікі паклоннік Эраса, шукае аднадумцаў для эратычнай перапіскі".**

Таксама справа. Пры асабістых жа сустрэчах можна цудоўна праводзіць час, чытаючы адзін аднаму старыя пісьмы.

**„Ваеннаслужачы, 38 гадоў, шукае добрую жонку для стварэння дружнай і моцнай сям'і. Пажадана — без цешчы".**

У правільным напрамку думкі кружыцца, камандзір! Вядома ж, моцная толькі тая сямейная ячэйка, дзе зусім адсутнічае цешча — гэты злейшы вораг народаў! Але калі гэты дэстабілізуючы фактар часова і маячыць на гарызонце — не бяда... Прапануй ласкава: „Прагуляліся б вы, мама, па тым лужку — там так добра..." Не забудзь толькі перад гэтым убраць з таго лужка ўказальнік „Замініравана"...

*...А вы гаворыце, сумнае ў нас цяпер жыццё... Мяркуючы па гэтых аб'явах, весела мы жывём, браткі!.. Вельмі весела!*

**Уладзімір Куземка**

# СЕНТЭНЦЫЇ

Бура пачуццяў
сціхае з нашым адыходам
і нарастае — з нашым вяртаннем.

* * *

Дзе няма пачуцця меры,
не знойдзеш разважнасці.

* * *

Абуджэнне — дотык хвіліны.

* * *

На каленях дойдзеш у нікуды.

* * *

Ад збытку пачуццяў
сабака брэша.

**Барыс Руско**






*— Гэта не п'яныя, гэта мае рэкламныя агенты.* **Мал. А. Гуцола**

# ДЫСКАТЭКА

От гэта кніжка! За вушы не адцягнеш. Во дзе любоў была, во дзе каханне! Не тое, што ў наш час.

Учора вось сабраўся на дыскатэку, адзеўся ва ўсё джынсавае, пайшоў на кухню папярэдзіць „продкаў", што вярнуся не скора.

— Чаго цябе нясе на гэту цїскатэку? — з дакорам сказала бабуля.

— А бацькам потым непрыемнасці, — дадаў тата, кінуўшы позірк на дзягу.

— Хай ужо сабе пойдзе, — заступілася матуля.

— І я хацу... — захныкаў брацік.

— Цыц! — гыркнуў на яго бацька, і да мяне: — А цябе як там заб'юць, то дадому можаш не прыходзіць.

Гэта я пачуў на лесвічнай пляцоўцы.

І вось я ў клубе. Цїскатэ... цьфу, дыскатэка пачалася ўжо. Толькі зайшоў я ў залу, як музыканты зайгралі „белы вальс".

— Пойдзеш? — падляцела да мяне нейкая дзяўчына гадоў трынаццаці-чатырнаццаці, уся ў джынсах. — Цябе як завуць? — і глянула запытальна сінімі, пафарбаванымі пад колер штаноў, вачамі.

— Цыялкоўскі, — жартам адказаў я.

— Марыя Сцюарт, — зрабіўшы рэверанс, прамовіла з годнасцю яна.

— Гэта каторай галаву адсеклі? — стрымліваючы смех, запытаўся я.

— Вой, праўда? Ад цябе першы раз чую, трэба тэрмінова мяняць клікуху, калі так. Манька Аблігацыя падыдзе?

— Пойдзе! — згадзіўся я.

— Слухай, а чувіха ў цябе ёсць? — змяніла яна раптам тэму. — Пойдзем са мною, я цябе з нашай кодлай пазнаёмлю. Ты адэкалон п'еш?

— Не.

— Нічога, навучым.

— Не, я сёння не магу, — стаў апраўдвацца я, шукаючы вачамі дзверы. — Хачу закончыць цікавую кнігу, сябар даў на дзень.

— Кнігу! А якую? „Эмануэль", „Зоркавыя войны", „Эрасфера"?

— Ды не, Быкаў, „Альпійская балада".

— А-а... — расчаравана мовіла яна. — А з выгляду не скажаш... — пакруціла пальцам ля скроні і... І я застаўся адзін, пасярод брэйкуючай залы.

Дыскатэка была ў самым разгары.

**Віктар Федарака**
*Вожык*

## Між намі

— Ведаеш, — кажа Коля Мішу, — я ўсё думаў, чаму ў большасці краін, дзе многім людзям дрэнна жывецца, няма рэвалюцыі...

— Ну і да якога вываду ты дайшоў?

— Вось у Бразіліі жывуць год, чакаючы карнавалу. Тады ўсе гуляюць і гуляюць, да ўпаду. Забываюць пра бяду. У нас таксама не будзе рэвалюцыі. У нас жывуць да выйгрышаў у розных конкурсах. Кожны жыве надзеяй.

— А ты што-небудзь выйграў?

— Але, мой беспрацоўны сын выйграў дошку для прасавання. Кажа, што ў наступны раз атрымае галоўны прыз. Такое штосьці лепш, чым нейкая рэвалюцыя. Людзі могуць бескрывава паправіць свой лёс. Вядома, некаторыя.

* * *

— О, Верка! — радасна крыкнула Наталля. — Як добра, што цябе бачу! Скажу табе, што на цябе Манька Грышава нагаварыла!

— Не хачу я слухаць.

— Чаму?!

— Калі яна на цябе раней гаварыла, то сказала, што напэўна і ты штосьці кепскае на мяне набалбочаш.

* * *

Стаіць п'яны каля чыгуначнай касы і паўтарае:

— Дайце мне білет туды і назад.

— Куды вам трэба? — пытае касірка.

— Я ж вам кажу: туды і назад.

Чарга не рухаецца, п'яны балбоча ўсё тое ж. Пасажыры клічуць чыгуначную паліцыю. Калі „сакіст" пачаў дапытвацца, куды хоча заехаць п'яны кандыдат на пасажыра, той урэшце растлумачвае:

— То ж кажу, што ў Варшаву і назад!

* * *

Настаўніца сказала Валодзеваму бацьку, што ўчора сын украў у сябра дзесяць пустых каробачак ад „супер-хрумсцікаў".

— Навошта ты крадзеш абы-што? Сёння такое смецце, а заўтра возьмешся за большае, злодзеем будзеш?! — накінуўся бацька на сына.

— Не, тата, я не буду злодзеем. А тыя каробкі не смецце. Калі выражу вось гэтыя лічбы з кожнай і адпраўлю прадуцэнту, магу выйграць экскурсію ў „Дыснейленд"!

**Аўрора**



**Мал. Л. Разладава**




Даражэнькае Сэрцайка! Усё было, здаецца, нармальна, па-людску. Пражылі мы з мужам дзевяць гадоў, і я ніводнага разу нікому не паскардзілася на яго. Ну, і што, што бывала ўсяляк?! Раз было горш, другі раз — лепш. Мама мяне заўсёды папярэджвала: глядзі, не выбірай сабе мужа-прыгажуна. Ды і такі мае быць, каб да дзевак занадта не лез, бо бяда будзе!

Праўда, былі ў мяне і такія сябры, што не цырымоніліся доўга: калі дамовіліся на якое спатканне, дык пачыналі ад ніжніх партый: засоўвалі руку пад спадніцу, прытуляліся ўсім целам, адным словам, адразу хацелі б мець усё.

Не падабаліся мне такія хлопцы. Ад такіх я адразу ўцякала. Я была яшчэ маладая і ўсё яшчэ, меркавала, было перада мной.

Хлопец, якому я дазволіла на нешта такое, стаў маім мужам. Не зрабіў гэта адразу, а праз шмат месяцаў ад нашага знаёмства. Быў вельмі нясмелы, і нават мне даваліся падштурхоўваць яго. Але затое я была ўпэўнена, што іншых дзяўчат ён не мае, бо я ў яго адзіная.

Не ведаю, ці добра я рабіла, што і ён у мяне быў першы і адзіны. Сяброўкі расказвалі пра розныя цуды, якія вычваралі іхнія мужы і каханкі, а мне не было чым хваліцца. Усё ў нас адбывалася вельмі звычайна і, трэба прызнацца, даволі хутка. Часамі, калі мы клаліся спаць, я так многа абяцала сабе па будучай ночы, але рэчаіснасць была зусім шэрая і без ніякіх неспадзевак.

Усё часцей я была незадаволеная і злосная пасля ночы. І „габарыты", як ты кажаш, таксама былі даволі скромныя. А сяброўкі хваліліся і паказвалі на кулакі — „габарыты" сваіх мужоў і хлопцаў. Адны казалі, што кахаюцца па тры гадзіны запар, другія — што чатыры разы за ноч.

У нас усё адбывалася ў пачатку ночы і не даўжэй пяці мінут. Чым мне было хваліцца? Усё збывала маўчаннем. Зрэшты, мушу табе, Сэрцайка, прызнацца, што я ўжо нават і прывыкла да такога вартага кахання. Дзеці, дом, праца — хапала мне заняткаў.

Як гром з яснага неба звалілася на мяне вестка, што ў майго мужа завялася так званая „бюрва". Хто? Ён?! Са сваімі магчымасцямі? З чым да людзей? Я думала, што калі ўжо хтось кідаецца на чужога мужыка, дык тады, калі ён сапраўды мае нязвыклыя „валёры", а тут...

Праверыла — праўда. Божа, што рабіць? Ён жа — бацька дзецям. Ды і скажы, няўжо тая дзяўчына сляпая?

Анэта

Анэта! Ты прытвараешся надта скромнай дзяўчынай, ну, маладой жанчынай, а сама думаеш „ад нізу"! А ці ж ад гэтага пачынаецца каханне? Часам дастаткова цёплага позірку, сардэчнага слова, усціску далоні. Калі ты называеш тую другую „бюрвай", значыць яна працуе разам з тваім мужам. Супольна праведзеныя гадзіны, можа паездкі ў камандзіроўкі, нейкія імяніны ў крузе сяброў наблізілі іх. Рэшта прыходзіць у адпаведны час. Толькі чалавек надта распусны пачынае адразу ад „дзела".

А можа тая паненка адкрыла ў тваім мужы тое, чаго не заўважыла ты. Нейкія цудоўныя якасці, якія прывялі ў новы рух усю яго істоту.

А мо проста яна няшмат патрабуе. Ёсць і такія дзяўчыны, асабліва вельмі маладыя. Яна проста не ведае, што можа быць інакш.

Не кідайся да мужа. Будзь да яго вельмі мілай, а пра сябе задбай, як толькі можаш — вопратка, прычоска, касметыка. Не прызнавайся, што ведаеш пра дзяўчыну, нават калі б ён табе на гэта намякаў, не прымай да ведама. У цябе сям'я! Патрактуй гэта як жарт.

Памятай, што такі мужчына, які не раскідаўся пачуццямі налева і направа, можа закахацца неспадзявана моцна.

**Сэрцайка**